



# Рэгіянальная газета. Rh.by




НАЙЛЕПШАЯ РЭГІЯНАЛЬНАЯ ГАЗЕТА ГОДА 2015

НАЙЛЕПШАЯ РЭГІЯНАЛЬНАЯ ГАЗЕТА ГОДА 2017

Выходзіць па пятніцах. Выдаецца з красавіка 1995 года. Выдавец ТАА «Рэдакцыя газеты «Рэгіянальная газета».

17 жніўня 2018 года №33 (1216)

12+




# Збіраемся ў школу бюджэтна і «па-багатаму»

Заплечнік 16 – 65 руб.

Кашуля 8 – 36 руб.

Штаны 20 – 59 руб.

## Колькі каштуе сабраць мяне ў школу?

старонка 5

Будучы трэцякласнік Стасік з Маладзечна амаль падрыхтаваўся да школы.

Фота Зоі ХРУЦКАЙ.









## Расклад цягнікоў па маршруце Кіеў-Мінск-Вільнюс-Рыга і назад

старонка 3


ISSN 1991–7155





Адсканіруйце QR-код, каб перайсці на наш сайт http://rh.by/



## У Маладзечанскіх электрасетак – новы дырэктар


Фота з архіва «РГ».

Павел Гарудка.

Маладзечанскія электрасеткі ўзначаліў **Павел Гарудка.**

Ён нарадзіўся ў Маладзечне ў 1978 годзе. Скончыў другую школу, Маладзечанскі політэхнікум, політэхнічную акадэмію (цяпер БНТУ).

Ад жніўня 2015 года працаваў галоўным інжынерам прадпрыемства, паведамілі ў аддзеле кадраў.

Пасля звальнення Сяргея Сарычава Павел Гарудка выконваў абавязкі кіраўніка.

**Аксана ЯРАШОНАК.**

## Больш за 210 тысяч рублёў выдаткавалі на абнаўленне дамоў

**ВАЛОЖЫН**

Цяпер распрацоўваюць праект на капітальны рамонт двух дамоў у Іванцы.

У самім Валожыне заканчваюць абнаўляць два будынкі на вуліцы Чапаева. На гэта асвоілі больш за 210 тысяч рублёў.

Цяпер працуе прыёмачная камісія па ўводу аб'ектаў у эксплуатацыю, паведамляе Мінаблвыканкам.

## У Міністэрстве аховы здароўя дазволілі наведваць у радзільнях

Міністэрства аховы здароўя зацвердзіла Рэгламент наведвання радзільных дамоў і акушэрскіх аддзяленняў бацькамі і блізкімі сваякамі, гаворыцца на сайце ведамства.

На падставе рэгламенту будуць распрацаваныя і зацверджаныя дакументы для наведвання кожнага радзільнага дома або акушэрскага аддзялення. Прэс-служба Міністэрства аховы здароўя адзначае, што дакумент распрацаваны па рэкамендацыях Сусветнай арганізацыі аховы здароўя.

Наведваць мам і нованароджаных магчыма пры іх здавальняючым стане з дазволу доктара. Мяркуецца, што маладая мама самастойна вызначыць тых, хто зможа наведваць яе і дзіця.

У радзільню зможа прайсці наведвальнік, які не мае прыкметаў інфекцыйных захворванняў, алкагольнага ап'янення. У перыяды ўвядзення ў арганізацыях аховы здароўя санітарна-супрацьэпідэмічныя мерапрыемстваў наведваць будзе дазволены ў сродках індывідуальнай абароны (маскі, капялюшыкі, халаты, бахілы).

## Калі можна збіраць журавіны і брусніцы ў рэгіёне

Тэрміны вызначаюць аблвыканкамы.

У Мінскай вобласці ў брусніцы можна ісці ад 15 жніўня. Збіраць журавіны дазволена ад 2 верасня, паведамляе сайт Мінаблвыканкама.

Гродзенскі аблвыканкам пастанавіў, што на тэрыторыі вобласці збіраць брусніцы можна ад 20 жніўня, журавіны – ад 6 верасня.

**Аддзел інфармацыі.**

## Памёр акцёр Мікалай Кірычэнка, ураджэнец Маладзечна

**МАЛАДЗЕЧНА**

Памёр беларускі акцёр-купалавец, народны артыст Беларусі **Мікалай Кірычэнка.** Яму было 72 гады.

Будучы акцёр нарадзіўся ў 1946 годзе ў Маладзечне. Сын вайскоўца-украінца і армянкі, ён стаў адным з твараў Нацыянальнага акадэмічнага тэатра імя Янкі Купалы. Інтэлігентны і далікатны, ён быў добрым педагогам і незаменным на сцэне, адзначаюць калегі.

**Паводле «Нашай Нівы».**

# У рэгіёне адчыняюць агракласы, зачыняюць адну школу

**Ці адкрываюць агракласы і зачыняюць школы, а таксама пра беларускамоўныя першыя класы мы распыталі ва Упраўленнях па адукацыі, спорту і турызму райвыканкамаў рэгіёна.**


Фота з архіва «РГ».

Некаторыя школьнікі пачнуць вучыцца ў класах з аграрным профілем.

**АСТРАВЕЦ**

На Астравеччыне ўвядуць навучальную навінку – агракласы – у Варнянах і сярэдняй школе №1 райцэнтра. Сфарміраваныя дзве групы па дзесяць чалавек, якія будуць вучыцца па новай праграме.

Зачыняць якія-небудзь школы ў раёне сёлета не плануюць.

На беларускай мове вучацца ва ўсіх сельскіх школах. У горадзе пакуль разглядаецца пытанне, ці буддзе беларускамоўны першы клас, расказалі ў аддзеле адукацыі.

**АШМЯНЫ**

Аграклас адчыняюць у Гальшанах.

Няма школ, якія планавалі б зачыняць.

Першакласнікі ў вёсках будуць навучацца па-беларуску, у горадзе – па-руску.

**СМАРГОНЬ**

Аграгрупа будзе створаная на базе сярэдняй школы №2 райцэнтра.

Зачыняецца Ракавецкі вучэбна-педагагічны комплекс яслі-сад–базавая школа.

Гарадскія першакласнікі будуць вучыцца па-руску, вясковыя – па-беларуску.

**ВАЛОЖЫН**

У сярэдняй школе №2 фарміруюць адну групу аграрнай накіраванасці.

Сёлета ў раёне не плануюць зачыняць школы. Беларускамоўныя першыя класы будуць у вёсцы, з рускай мовай навучання – у горадзе.

**МЯДЗЕЛ**

На базе «Мядзельскага вучэбна-педагагічнага комплекса яслі-сад – сярэдняя школа» пачне працаваць клас аграрнага профілю.

Зачыняць школы не плануюць. У вёсках усе першыя класы з беларускай мовай навучання, у гарадах – з рускай.

**МАЛАДЗЕЧНА**

У Чысцінскай школе плануюць адкрыць групу аграрнага профілю.

Зачыняць школы ў раёне не плануюць.

Гарадскія першакласнікі будуць вучыцца на рускай мове. Сёлета падалі дзве заявы з просьбай аб навучанні на беларускай мове ў горадзе.

**ВІЛЕЙКА**

У Вілейскім раёне будзе дакладна вядома пра тое, ці адчыняць агракласы, пасля 20 жніўня.

Зачыняць школы не плануюць.

Першыя класы ў вёсцы будуць вучыцца на беларускай мове, у горадзе – на рускай.

**Зоя ХРУЦКАЯ.**

## Школьнікаў рэгіёна запрашаюць далучыцца да акцыі «Букет дабрыні»

**МАЛАДЗЕЧНА**

**1 верасня некаторыя вучні маладзечанскіх школ панясуць настаўніцы адзін букет ад класа. А грошы, якія звычайна трацяць на кветкі, пералічаць на лячэнне для хворых дзяцей.**

Пра акцыю «Рэгіянальнай газеце» распавяла маладзечанка **Марына Аляшкевіч,** мама вучня-трэцякласніка школы №14.

– Такую акцыю мы ўжо праводзілі летась, – кажа Марына. – Сёлета таксама ўсе бацькі з нашага класа будуць удзельнічаць. Замест кветак Іван і яго аднакласнікі пойдуць у школу са сцяжкамі з надпісам «Дзеці замест кветак». Хацелася б, каб у гэтым годзе да нас далучыліся больш іншых школ.

Летась з нашага рэгіёна ў акцыі паўдзельнічалі некаторыя школы з Маладзечна і Валожына, а таксама школьнікі з Чысці. Сабраныя грошы накіравалі на лячэнне хлопчыка з Глыбокага.

### Як паўдзельнічаць у акцыі

1. Важна, каб рашэнне вашага класа далучыцца да акцыі прынялі сумесна бацькі, вучні і настаўнік. Заявіць пра гэта можа любы з бакоў.

2. Трэба напісаць заяўку ў свабоднай форме і даслаць яе на пошту info@chance.by. У заяўцы трэба пазначыць кантактную асобу для сувязі, нумар тэлефона, горад, школу, клас і колькасць вучняў. Па вашым жаданні арганізатары перашлюць па электроннай пошце макет сцяжка, які можна будзе раздрукаваць і ўзяць на лінейку.

3. Ахвяруйце сабраныя ад вашага класа грошы ў фонд «Шанец». Гэта можна зрабіць у любым банку альбо праз інтэрнэт-банкінг праз сістэму АРІП (АРІП – Грамадскія аб'яднанні – Дапамога дзецям, дарослым – Фонд «Шанец» – Ахвяраванне на лячэнне дзяцей).

Больш падрабязная інфармацыя на **www.chance.by**. Калі ў вас ёсць пытанні, тэлефануйце – (8-017) **388-01-43,** (8-044) **711-11-17** або МТС (8-029) **22-22-513**.

**Аддзел інфармацыі.**

# Завялі крымінальную справу на былога дырэктара рынку

МАЛАДЗЕЧНА

**Паводле версіі праваахоўных органаў, дырэктар рынку райспажыўтаварыства гарантавала гандлярам месцы, заплюшчвала вочы на парушэнні і прымала хабар.**



Фота з архіва «РГ».

Былая дырэктар рынку Маладзечанскага райспажыўтаварыства падазраецца ў тым, што ад сакавіка 2014 па май 2018 года атрымала хабару не менш за 600 рублёў і 6500 долараў ад гандляроў гароднінай.

Падчас праверкі супрацоўнікі аддзела барацьбы з эканамічнымі злачынствамі Мінскай вобласці знайшлі больш за 15 чалавек, якіх прымушалі кожны сезон прыкладна з сакавіка па кастрычнік плаціць «даніну» дырэктару. За 200 долараў дырэктар рынка гарантавала гандлярам, у асноўным пенсіянерам, сталыя месцы на рынку. Таксама заплюшчвала вочы на некаторыя парушэнні з іх боку. Часам пенсіянеры, каб трохі падзарабіць, акрамя гароднiны з уласных агародаў прадавалі і гародніну, купленую на гэтым жа рынку ў аптавікоў.

Цяпер у дачыненні да былога дырэктара рынка ўзбудзілі крымінальную справу па другой частцы артыкула «Атрыманне хабару паўторна, альбо шляхам вымагання, або ў буйным памеры».

АБЭЗ Маладзечанскага РАУС просіць грамадзян, якія пацярпелі ці былі сведкамі незаконных дзеянняў службовай асобы, звяртацца да іх.

**Паводле УУС Мінаблвыканкама.**

| КУРСЫ ВАЛЮТ НБ РБ | 9.08 | 16.08 |
|---|---|---|
| | руб. | руб. |
| Долар ЗША | 2.0110 | **2.0548** |
| Еўра | 2.3327 | **2.3283** |
| Злоты, 10 | 5.7418 | **5.3880** |
| Расійскі рубель, 100 | 3.1549 | **3.0865** |
| Грыўня, 100 | 7.4592 | **7.4842** |

| Курсы ў «Банку БелВЭБ» | 8.08 | 15.08 |
|---|---|---|
| Еўра | 2.3100/2.3300 | **2.3100/2.3470** |
| Долар ЗША | 2.0000/2.0170 | **2.0400/2.0650** |

ЦЭНЫ НА РЫНКУ (Маладзечна)

| ПРАДУКТЫ | 8.08 | 15.08 |
|---|---|---|
| | Цана, руб. | |
| Кілбаса «Мядовая», 1 кг | 18,45 | **18,45** |
| Кураня-бройлер, 1 кг | 3,60 | **3,90** |
| Сасіскі «Малочныя», 1 кг | 6,95 | **6,98** |
| Свініна (выразка), 1 кг | 7,50 | **7,50** |
| Мінтай свежамар., 1 кг | 4,10 | **4,30** |
| Селядзец, 1 кг | 3,15 | **5,50** |
| Скумбрыя х/в, 1 кг | 13,80 | **13,80** |
| Грэчка, 0,8 кг | 0,90 | **1,10** |
| Рыс, 0,8 кг | 1,25 | **1,60** |
| Алей, 1 л | 3,00 | **3,00** |
| Кава «Nescafe», 100 г | 3,25 | **4,80** |
| Маянэз, 400 г | 1,90 | **2,15** |
| Соус «Мінскі», 0,5 л | 1,25 | **1,60** |
| Шпроты, бляшанка, 160 г | 1,90 | **1,90** |
| Яйкі курыныя, 1 дз. | 1,80 | **1,60** |
| Агуркі, 1 кг | 1,00 | **1,20** |
| Баклажаны, 1 кг | 1,30 | **1,80** |
| Бульба, 1 кг | 0,60 | **0,50** |
| Буракі, 1 кг | 0,80 | **0,80** |
| Кабачок, 1 кг | 0,35 | **0,50** |
| Капуста, 1 кг | 0,50 | **0,60** |
| Капуста пекінская, 1 кг | – | **2,50** |
| Морква, 1 кг | 1,00 | **1,00** |
| Памідоры, 1 кг | 1,00 | **0,90** |
| Перац, 1 кг | 1,50 | **1,80** |
| Цыбуля рэпчатая, 1 кг | 1,00 | **0,90** |
| Часнок, 1 кг | 3,90 | **4,90** |
| Абрыкосы, 1 кг | – | **2,90** |
| Апельсіны, 1 кг | 2,60 | **2,70** |
| Бананы, 1 кг | 1,50 | **1,70** |
| Вінаград, 1 кг | 3,60 | **3,50** |
| Грушы, 1 кг | 2,80 | **2,90** |
| Дыня, 1 кг | 2,00 | **1,90** |
| Кавун, 1 кг | 0,85 | **0,75** |
| Ківі, 1 кг | 3,50 | **3,20** |
| Лімоны, 1 кг | 4,50 | **4,50** |
| Нектарыны, 1 кг | 4,90 | **3,50** |
| Персікі, 1 кг | 2,80 | **2,80** |
| Яблыкі, 1 кг | 1,00 | **–** |
| **СЯЛЯНСКІЯ ПРАДУКТЫ** | | |
| Малако, 1,5 л | 1,80 | **1,80** |
| Масла, 1 кг | 14,00 | **14,00** |
| Сала, 1 кг | 10,00 | **10,00** |
| Тварог, 1 кг | 6,00 | **6,00** |
| Яйкі, 1 дзясятак | 2,50 | **2,50** |

## Калі гаспадыня даіла карову, зверху паляцелі іскры

ВІЛЕЙКА

13 жніўня каля пяці раніцы жыхарка вёскі Балашы Крывасельскага сельсавета пайшла даіць карову. Раптам са столі хлява паляцелі іскры і знікла святло.

Тут жа жанчына заўважыла, што ў другой частцы хлява загарэлася сена, якое там захоўвалі.

Гаспадыня прынесла вядро вады і заліла агонь. Пажар быццам бы спыніўся. Але пакуль жанчына прынесла другое вядро, сена ўжо гарэла адкрытым полымем.

– Гаспадыня ўжо немаладая, ёй 77 гадоў, хадзіць цяжка, – распавёў «Рэгіянальнай газеце» галоўны спецыяліст інспекцыі нагляду і прафілактыкі **Дзяніс Гаўрышчук. –** Пакуль яна ішла, суседзі ўжо самі выклікалі выратавальнікаў.

Прыехала чатыры аўтацыстэрны і хуткая дапамога.

У выніку пажару хлеў разам з сенам згарэў. Карова і гаспадыня не пацярпелі.

Каб пазбегнуць падобных здарэнняў, супрацоўнікі Вілейскага РАНС нагадваюць:

свяцільнікі ў хлявах абавязкова павінны быць з плафонамі;

злучаць усе правады неабходна з дапамогай спецыяльных зажымаў, зваркі або пайкі;

нельга злучаць правады розных відаў, напрыклад, алюмініевы з медным;

нельга выкарыстоўваць старую электраправодку.

**Аксана ЯРАШОНАК.**

## 18-гадовыя віляйчане скралі з машын відэарэгістратар і магнітолы

ВІЛЕЙКА

Адразу тры крымінальныя справы 13 жніўня ўзбудзілі ў Вілейскім РАСК супраць двух 18-гадовых мясцовых жыхароў.

Стала вядома, што яны кралі маёмасць з аўтамабіляў.

Так, ноччу 17 студзеня яны адціснулі шкло ў «Сітраэн Ксантыя», які належаў жыхарцы Вілейкі, і скралі адтуль відэарэгістратар коштам каля 27 рублёў.

У пачатку мая з машыны мясцовага жыхара хлопцы скралі магнітолу, што каштавала 50 рублёў.

Яшчэ адно злачынства фігуранты здзейснілі летась 3 лістапада: адціснуўшы дзверцы машыны, забралі магнітолу коштам 35 рублёў, паведамляюць у Вілейскім РАСК.

**Аксана ЯРАШОНАК.**

## Скраў бутэльку шампанскага і выпіў, пакуль уцякаў ад прадаўцоў

ВІЛЕЙКА

13 жніўня вілейскія следчыя ўзбудзілі крымінальную справу супраць 32-гадовага віляйчаніна, які адкрыта скраў у адным з магазінаў горада бутэльку «Савецкага шампанскага» коштам каля сямі рублёў.

– Мужчына прыйшоў у магазін, узяў бутэльку і накіраваўся да выхаду, – распавядае падрабязнасці здарэння намеснік начальніка Вілейскага РАСК **Аляксандр Путырскі. –** Прадаўцы казалі яму, што трэба заплаціць, а той адказаў «мне без розніцы» і выйшаў з магазіна.

Прадаўцы беглі ўслед, але мужчына плаціць не збіраўся.

Больш за тое, за гэты час ён ужо паспеў выпіць шампанскае.

**Аксана ЯРАШОНАК.**

## У Вілейскім вадасховішчы патануў жыхар Рабуні

ВІЛЕЙКА

11 жніўня, у суботу, супрацоўнікі міліцыі паведамілі ў Вілейскую выратавальную станцыю пра тое, што ў вадасховішчы ў вёсцы Рабунь, каля дамбы, патануў мужчына.

Выратавальнікі дасталі тапельца. Гэта быў 46-гадовы жыхар вёскі Рабунь.

Па словах начальніка Вілейскай выратавальнай станцыі **Ягора Роўды,** мужчына патануў не падчас купання, бо быў у адзенні. Побач на беразе стаяў ровар і шлёпанцы.

– Мужчына быў у нецвярозым стане, – удакладніў Роўда. – Хутчэй за ўсё з нейкай мэтай спускаўся да вады, але не ўтрымаўся і зваліўся ў вадасховішча.

**Аксана ЯРАШОНАК.**

## Думалі, што скралі кабылу. А яна вярнулася з жарабём

ВІЛЕЙКА

Пра тое, што ў гаспадарцы ў Даўгінаве знікла кабыла, у Вілейскі РАУС паведамілі 6 жніўня.

Міліцыя выехала на месца. Аднак у той дзень жывёліну не знайшлі.

Праз пару дзён кабыла вярнулася, але не адна, а з жарабём. Аказалася, што яна сама сышла ў лес, каб нарадзіць, распавяла «Рэгіянальнай газеце» намеснік начальніка Вілейскага РАУС **Кацярына Млечка.**

**Аксана ЯРАШОНАК.**



Фота evilkiki.ru

Перадсмяротныя запіскі знайшлі ў дваіх памерлых.

# За тры дні на Маладзечаншчыне знайшлі два трупы з перадсмяротнымі запіскамі

МАЛАДЗЕЧНА

**5 жніўня ў полі паміж вёскамі Падлесная і Маркава знайшлі памерлую жанчыну. 7 жніўня ў пачатку лесу ля станцыі Пруды знайшлі павешанага мужчыну.**

Пра абставіны распавёў старшы следчы Маладзечанскага РАУС **Юры Багушэвіч.**

Мужчыну, пра зникненне якога мы пісалі раней, знайшлі 7 жніўня павешаным у лесе каля станцыі Пруды.

– Дакладна вядома, што гэта зніклы **Д.Р., –** распавёў «Рэгіянальнай газеце» Юры Багушэвіч. – Мужчына жыў у вёсцы Запалякі, што недалёка ад месца, дзе яго знайшлі павешаным. Але апошнія месцы, дзе ён жыў – гэта вуліца Вандыша ў Маладзечне. Адтуль мужчына 17 ліпеня пайшоў на працу. І больш не прыйшоў. На працы не з'явіўся таксама. У РАУС падалі заяву пра яго знікненне.

Па словах старшага следчага, побач з мужчынам знайшлі перадсмяротную запіску.

Двума днямі раней, 5 жніўня, у полі паміж вёскамі Падлесная і Маркава знайшлі труп жанчыны. Па словах Юрыя Багушэвіча, труп ужо быў з прыкметамі раскладання. Прыкмет гвалтоўнай смерці не заўважылі. Пры жанчыне таксама знайшлі перадсмяротную запіску.

Было гэта самагубства ці не, пакуль казаць рана. Цяпер следчыя праводзяць праверкі.

У памерлай жанчыне па адзенні пазналі зніклую ў чэрвені 67-гадовую **Г.С.** з Маладзечна. Аднак дакладна сказаць, што гэта яна, можна будзе толькі пасля правядзення экспертызы, распавёў Юры Багушэвіч.

**Аксана ЯРАШОНАК.**

# Што рабіць, каб не скралі ровар

МАЛАДЗЕЧНА

**У Маладзечне штогод становіцца больш ровараў. Адпаведна павялічваецца колькасць іх крадзяжоў. Ровар – каштоўная маёмасць, да захавання якой часта ставяцца нядбайна.**

За шэсць месяцаў гэтага года зарэгістравалі 25 крадзяжоў ровараў: 20 у горадзе, пяць – у сельскай мясцовасці. Найчасцей ровары крадуць у Паўднёвым і Цэнтральным мікраёнах – па пяць у кожным. Таксама ў Савецкім і Усходнім – па чатыры ў кожным. Па аднаму ровару скралі ў Паўночным і Завадскім мікраёнах.

У сельскай мясцовасці ровары кралі на тэрыторыях Радашкавіцкага, Цюрлёўскага, Красненскага, Чысцінскага і Гарадзілаўскага сельсаветаў.

У 22 выпадках злачынцы ўвогуле не сустракалі ніякіх перашкод у крадзяжы. Па аднаму крадзяжу было з выстаўленнем аконнай рамы, узломам роварнага замка і замка на дзвярах хлява. Амаль палову з усіх ровараў скралі з пад'ездаў.

Напрыклад, у ноч ад 4 на 5 ліпеня невядомы скраў ровар з роварнымі замкамі з тамбура пад'езда дома па Вялікім Гасцінцы, 2. Урон гаспадару – 604 рублі.

У канцы чэрвеня нехта пашкодзіў замок у дзвярах, пранік у склеп дома ў Радашкавічах і скраў горны ровар, які каштуе 400 рублёў.

### Як папярэдзіць крадзеж

Прышпіляйце ровар, нават калі пакідаеце яго на адну хвіліну. Але памятайце, што танныя тонкія тросікі лёгка перакусіць. Лепш выкарыстоўваць таўсцейшыя. Прышпіляйце ровар за кола і за раму. А калі дазваляе трос, то за два колы і за раму.

Пакідаючы ровар, забірайце з сабой усё абсталяванне, якое можна хутка зняць: велакамп'ютар, насос, ліхтар, сядло. Прывабнасць такога ровара для злачынцаў і хуліганаў значна меншая. Нядрэнным дапаўненнем да троса будзе сігналізацыя.

Памятайце, што лесвічная пляцоўка – не самае лепшае месца для захоўвання нават прышпіленага ровара. Па магчымасці пакідайце яго ў такім месцы, каб ровар быў у вас пад наглядам, пакуль вы знаходзіцеся ў будынку. Але таксама прышпіляйце. Калі ёсць камеры відэаназірання, лепш пакінуць ровар у полі іх зроку.

Нагадваем, што за пакіданне ровараў на лесвічнай пляцоўцы прадугледжаная адміністрацыйная адказнасць.

Калі вы сталі сведкам крадзяжу, перакана̃ўча просім паведаміць па тэлефонах **102,** (8-0176) **77-16-56** (кругласутачна), **77-14-88, 77-44-11** (у працоўныя дні ад 9.00 да 18.00).

**Валянцін АСІПОВІЧ, начальнік Маладзечанскага РАУС.**

ТЭМА НУМАРА

# Колькі каштуе сабрацца ў школу

МАЛАДЗЕЧНА

**Карэспандэнт «РГ» наведала дзесяць маладзечанскіх крам і разбіралася, колькі грошай трэба аддаць бацькам напярэдадні навучальнага года.**

У нашым аглядзе мы знайшлі самыя танныя і самыя дарагія рэчы на прылаўках.

### Што прапаноўваюць з адзення

Самая танная блузка для дзяўчынкі каштуе пяць рублёў, але такую можна знайсці толькі на распродажы. Звычайна прапаноўваюць «верх» ад 17 да 45 рублёў, залежыць ад крамы.

Спадніца каштуе ад 16 да 35 рублёў. Прычым якасць няглёдзячы на цану вельмі блізкая. Варыянт за 16 рублёў быў на зніжцы.

Сарафан можна знайсці за 20 рублёў, але трэба добра пашукаць. Звычайны цана – 35-45. Бачылі сарафанчык і за 54 рублі.

Толькі ў адной краме сустрэлі кашулю без зніжкі па восем рублёў. У астатніх кошт вагаецца ад 25 да 30. Самая дарагая – 36 рублёў.

А вось цана пінжака ўражвае – якасны можа абысціся ў 75 рублёў. Самы танны з вельмі тонкай тканіны мы знайшлі за дзевяць.

### Збіраем рэчы ў заплечнік

Каб сабраць заплечнік, трэба яго набыць. Самы танны варыянт знайшлі за 16 рублёў на зніжцы з дызайнам і для хлопчыкаў, і для дзяўчынак. У асноўным цэны пачынаюцца ад 25. Прапаноўваюць дзіцячыя заплечнікі і за 65 рублёў.

Школьныя прылады ёсць куды складваць. Цяпер патрэбна набыць дзённік. Самы танны для трэцяга-чацвёртага класа знайшлі за 85 капеек, у мяккай вокладцы. Для пятага-адзінаццатага – за рубель. Дзённікі ў цвёрдым пераплёце абыйдуцца ў 2.45.

Дзённік для музычнай школы ў мяккай вокладцы каштуе ад 90 капеек, у цвёрдай – да чатырох рублёў.

Любому школьніку неабходныя сшыткі. Знайшлі на 12 лістоў па 11 капеек — гэта самы танны варыянт з усіх, што бачылі. Большасць крам прапаноўвае іх ад 14 да 17 капеек. Самы дарагі ў папяровай вокладцы – 19. У кардоннай вокладцы сшытак абыйдзецца ад 25 да 60 капеек. Сшыткі ў вузкую лінейку і буйную клетку на пару капеек танней.

Самую танную пластыкавую шарыкавую ручку можна купіць за 18 капеек. Далей цэны растуць у залежнасці ад дызайна і якасці. Ручкі сярэдняй цэнавай катэгорыі абыйдуцца каля трох рублёў.

Просты аловак каштуе ад 19 капеек да аднаго рубля. Самая танная гумка – 15 капеек, дарагая – амаль шэсць рублёў. Гэта камплект два ў адным – гумка і тачылка.

Набыць толькі тачылку можна ад 18 капеек да трох рублёў. Жалезная каштуе рубель-два, механічная – 15 рублёў.

Драўляную лінейку на 30 сантыметраў знайшлі за 45 капеек, металічную такога ж памеру – за 60. Для параўнання: знайшлі жалезную метровую лінейку за пяць рублёў. Набор з пластыкавымі транспарціром, двума вугольнікамі і лінейкай каштуе 3.70.

Каб скласці канцылярскія прылады, варта набыць пенал. Танны варыянт выглядае як пластыкавы тубус, каштуе 1,05 рублі. Дарагі – амаль 12 рублёў, якасна прашыты і вялікі. Металічны абыдзецца ў два рублі. Сустракаюцца на прылаўках і цалкам запоўненыя пеналы. Да прыкладу, з 14 фламастарамі, васьмю каляровымі алоўкамі і двума простымі, тачылкай, гумкай і ручкай абыйдзецца амаль у 40 рублёў.

## Цэны на школьныя тавары: мінімальныя і максімальныя

| Тавар | Цана |
|---|---|
| Заплечнік | 16 – 65 руб. |
| Дзённік | 1 – 2.45 руб. |
| Сшытак | 0.11 – 0.60 руб. |
| Ручка | 0.18 – 3 руб. |
| Аловак | 0.19 – 1 руб. |
| Гумка | 0.15 – 5.75 руб. |
| Тачылка | 0.18 – 15 руб. |
| Лінейка | 0.45 – 3.70 руб. |
| Пенал | 1.05 – 12 руб. |
| Блузка для дзяўчынкі | 5 – 45 руб. |
| Сарафан для дзяўчынкі | 20 – 54 руб. |
| Спадніца для дзяўчынкі | 16 – 35 руб. |
| Штаны для хлопчыка | 20 – 59 руб. |
| Пінжак для хлопчыка | 9 – 75 руб. |
| Кашуля для хлопчыка | 8 – 36 руб. |

**АГУЛАМ ад 60.31 да 242.50 руб.** (для дзяўчынкі) **ад 56.31 да 189.31 руб.** (для хлопчыка)

### Што яшчэ можа спатрэбіцца

У малодшых класах вучню часта патрэбныя дадатковыя школьныя прылады.

Аднабаковую каляровую паперу на 16 лістоў знайшлі за 58 капеек, але гэта – рэдкі варыянт. Звычайна прапаноўваюць за рубель. Двухбаковая на такую ж колькасць лістоў каштуе ад 85 капеек да 1,60 рубля.

Восем лістоў каляровага кардона – ад рубля да трох. Прапануюць набат флуарэсцэнтны гафрыраваны. Такі прадаюць за пяць рублёў.

Самая танная акварэль на 6 колераў каштуе 90 капеек, 24 колеры прапаноўваюць за сем рублёў. Дзевяць колераў гуашы – за пяць. На прылаўках сустракаюцца фарбы з ультрафіялетавай абаронай яркасці, 12 колераў – дзесяць рублёў.

Паглядзіце на нашай інфаграфіцы, колькі каштуюць самыя неабходныя школьніку рэчы.

**Таццяна КАСЬЯН.**

# Калі правядуць школьныя кірмашы

МАЛАДЗЕЧНА
ВІЛЕЙКА

Да першага верасня ў Маладзечне зладзяць школьны кірмаш – каля «Універмага», што па Прытыцкага, 27.

Кірмаш правядуць 18 жніўня, у суботу. Гандляваць будуць абуткам, адзеннем, канцылярскімі прыладамі і іншымі школьнымі рэчамі. Таксама па традыцыі ў школьны перыяд ля гэтай крамы з'явілася палатка, дзе пакупнікі таксама могуць набыць школьныя прылады. Пра гэта паведаміла Кацярына Страпко, выканаўца абавязкаў начальніка аддзела гандлю і паслуг Маладзечанскага райвыканкама.

А ў Вілейцы па Савецкай ля рынка таксама 18 жніўня правядуць школьны кірмаш. Ён пачнецца а 9-ай і будзе доўжыцца да 14.00.

– Мы прымаем заяўкі ад прадаўцоў. Цяпер у нас толькі два прадпрыемствы, што прадаюць дзіцячыя тавары, таму кірмаш будзе не маштабным. Упор ідзе на айчынную прадукцыю. Наведвальнікі змогуць набыць адзенне, абутак, заплечнікі, канцтавары, – паведаміла Наталля Драгун, галоўны спецыяліст аддзела эканомікі Вілейскага райвыканкама.

**Таццяна КАСЬЯН.**

# ПРЫВАТНЫЯ АБ'ЯВЫ

Транспарт • Нерухомасць • Паслугі • Праца • Рознае

Рэгіянальная газета. Rh.by

* Аб'явы, пазначаныя зорачкай, змешчаныя ў інтэрнэце на сайце Rh.by

**Дзе падаць аб'яву**

**МАЛАДЗЕЧНА** Вялікі Гасцінец, 143, офіс 518. Тэл. 8 (0176) **53-78-04**, 8 (029) **676-84-20.**
**АСТРАВЕЦ** вул. Ленінская, 5, аддзяленне сувязі №1. Тэл. 8 (01591) **2-11-40.**
**АШМЯНЫ** вул. Савецкая, 97, пошта. Тэл. 8 (01593) **7-56-17.**
**ВАЛОЖЫН** вул. 1 Мая, 3, пошта. Тэл. 8 (01772) **6-13-85.**
**ВІЛЕЙКА** вул. Партызанская, 44, магазін «Парус». Тэл. 8 (01771) **2-00-83, 2-01-03;** вул. 17 Верасня, 30, пошта. Тэл. 8 (01771) **5-52-33, 5-55-39.**
**МЯДЗЕЛ** вул. 17 Верасня, 2. Тэл. 8 (01797) **5-52-66, 5-57-65.**
**СМАРГОНЬ** вул. Танкістаў, 8 (насупраць ваенкамата). Тэл. 8 (01592) **3-30-77.**

## ВІНШАВАНКА

**Ніне Уладзіміраўне МАНЦЭВІЧ з Вілейкі!**

**Наша чароўная Ніна Уладзіміраўна!**
З усёй цеплынёй віншуем вас з Днём нараджэння! Няхай вам весялосць, гумар і мудрасць грэюць вашых блізкіх і дапамагаюць ва ўсіх справах. А для вас хай заўсёды знаходзяцца толькі самыя шчырыя ўсмешкі і прыемныя размовы. Хай усё ладзіцца і сам лёс паспрыяе ў самых важных рэчах! Вясёлага свята!
**З любоўю, калектыў «Рэгіянальнай газеты».**

## ТРАНСПАРТ

### ПРАДАЕЦЦА

• Опель-Астра G, 2003 г.в., універсал, 2,0 ТДІ, сіні, ТА, тэрмінова. Т. (8-029)6046728.*

• Рэно-Трафік, каробка передач, 1993 г.в., аб'ём 2,5. Т. (8-033) 3737056, (8-029) 2729478.

• ФВ Пасат Б6, бензін, чорны металік, з Еўропы. Ёсць усё, акрамя скуры. Т. МТС (8-033) 6714366.

### КУПЛЮ

• Аўто 0,01 – 3,5 л, 1987-2018 г.в. з любымі праблемамі, для сябе. Дорага. Т. (8-029) 9076073, (8-029) 7459021.*

• **АЎТО Ў ЛЮБЫМ СТАНЕ, ДОРАГА! Т. (8-029) 9928406.***

• Аўто для сябе. Тэрмінова. Т. (8-029) 6412706, (8-029) 7646646.*

• Любое аўто на хаду. Грошы адразу. Т. (8-029) 2016100, (8-029) 9961242.*

### ІНШАЕ

• Антыкаразійны цэнтр DINITROL. Апрацоўка днішча, колавых арак, схаваных поласцяў. Гарантыя ад 3 да 7 гадоў. Дыягностыка кузава і кансультацыя – бясплатныя. Наяўны, безнаяўны разлік. Маладзечна, зав. Лазневы, 18 (раён школы №1). ІП Блоцкая В. М. УНП 691898138. Тэл. Вэлком 8 (029) 3239999, МТС (8-033) 3239999.*



## НЕРУХОМАСЦЬ

### ПРАДАЕЦЦА

• 2-пакаёвая кватэра з мэбляй, гараж з пограбам. Т. (8-01771) 39873.

• 2-пакаёвая кватэра ў Вілейцы. Т. (8-029) 7725105.*

• 3-пакаёвая кватэра ў Вілейцы (цэнтр горада). Т. (8-044) 7988018.

• 3-пакаёвая кватэра ў Вілейцы, вул. Чапаева, 62, 61,3 кв. м, 5 паверх, 70 000 руб. Т. (8-029) 5056728.*

• 3-пакаёвая кватэра ў Маладзечне, 2 паверх, вул. Валынца, або абмяняю на Мінск. Т. (8-029) 5086693.*

• 3-пакаёвая кватэра ў Мінску, еўрарамонт. Плошча 72 кв. метры. Развітая інфраструктура. Т. (8-029) 6616206.

• 4-пакаёвая 2-узроўневая кватэра ў Вілейцы: 75,7/50,2/9. Т. (8-029) 3342562.

• Дом з гаспадарчымі пабудовамі у в. Сінькі Смаргонскага р-на. Т. (8-029) 1704380.*

• Дом недабудаваны ў в. Костыкі на беразе р. Вілія. Т. (8-029) 8720822, (8-029) 9074107.

• Дом новы 2-узроўневы, 6х6,5, ў в. Насілава, драўляны, абкладзены цэглай, 0,22 га, сад, калодзеж. Побач газаправод, вадаправод. Побач электрычка і гарадскі аўтобус. Т. Вэлком (8-029) 9430755.*

• Дом у в. Курнікі, Іжскі с/с. Цана дагаворная. Т. (8-01771) 45540.

• Дом у в. Папоўцы Вілейскага р-на. Лазня, калодзеж. Т. (8-029) 8587518.*

• Зруб дома 6х12 метраў. Т.МТС (8-029) 7459993, МТС (8-029)5622825.*

• Садовы ўчастак, жылы домік. Нядорага. КААП «Брыльянт», каля вёскі, чыгуначны прыпынак «Ласі». Т. (8-033) 6407558.*

### КУПЛЮ

• Дом альбо дачу ў добрым стане, недалёка ад чыгункі. Т. (8-029) 1815904.*

### ЗДАМ

• 1-пакаёвую кватэру ў г.п. Чысць на доўгі тэрмін, з мэбляй. Балкон. Падвал. Т. (8-044) 7337811.*

## ПАСЛУГІ

### ГРУЗАПЕРАВОЗКІ

• Бусы 1,5 т. ПУП «Дойлід-С», УНП 600077312. Т. (8-029) 1921299.*

• Мерсэдэс-412, 3 т, 20 куб.м. Санпашпарт. Без выхадных. ІП Габрыновіч А.В. УНП 691885058. Т. (8-029) 7015520.*

• Мерсэдэс-508, тэнт, да 3 тон + 5 пасажырскіх месцаў, па горадзе і РБ. Кватэрныя пераезды. Вываз смецця. Грузчыкі. ІП Шабуня С.А. УНП 691885349. Т. МТС (8-029) 8548742, Вэлком (8-044) 4784873.*

• Фура 20 т. ПУП «Дойлід-С», УНП 600077312. Т. (8-029) 1921299.*

### БУДАЎНІЧАЯ ТЭХНІКА

• Міні-экскаватара, усе віды земляных работ. ІП Матусевіч Ю.І. УНП 691397070. Т. (8-029) 6654868, (8-0176) 778888.*

• Міні-пагрузчык, міні-экскаватар, траншэекапальнік, вібрапліта 500 кг. ІП Карповіч В.У. УНП 692013268. Т. (8-029) 1790000.*

• Міні-экскаватар. Экскаватар-пагрузчык (бур). Усе віды земляных работ (газ, вада, фундаменты). ІП Жак А.А. УНП 691515498. Т. (8-044) 5522028.*

### ІНШЫЯ ПАСЛУГІ

• Антэны спадарожнікавыя, лічбавае ТБ, усе віды паслуг. ІП Такмакоў Г.У. УНП 692022633. Т. (8-029) 5613972.*

• Будаўніцтва, рэканструкцыя, рамонт малапавярховых будынкаў, дамоў, катэджаў. Наяўны і безнаяўны разлік. ТАА «БілдСтайл» УНП 690668121. Т. (8-033) 6654173, (8-01771) 23349.*

• Бухгалтарскі ўлік. ІП Сільцова М.І. УНП 691507537. Т. МТС (8-029) 7632186.*

• Выраб розных металавырабаў, варот, брамак, агароджаў з сеткі і прафнасціла, навесы і г.д. Замер, дастаўка, установка. ІП Мазалеўскі М.В. УНП 691514343. Т. (8-029) 5081330.*

• **ВЫРАБ ЯКАСНЫХ ЧАХЛОЎ** любой складанасці, пашыў аўтамабільных салонаў, тэнтаў для лодак і катараў. ІП Мацко А.А. УНП 691514463. Т. Вэлком (8-029) 6932184.*

• Драбленне пнёў любога дыяметра. Хутка, якасна, нядорага. ІП Таўгень Е П. УНП 691882722. Т. (8-033) 6330830, (8-029) 1724851.*

• Кладка, дах, фундамент. ІП Яновіч Ч.А. УНП 600163826. Т. (8-0176) 734961, (8-029) 5024571.*

• Мантаж-дэмантаж дахаў, уцяпленне дамоў, афарбоўка, падшыва, абшыўка франтонаў сайдынгам і інш. ІП Бесараб А.В. УНП 691892579. Т. (8-029) 2754603, (8-044) 4654416.*

• Рамонт ЖК-тэлевізараў, ноўтбукаў, спадарожнікавых антэн, выезд майстра. ІП Такмакоў Г.У. УНП 692022633. Т. (8-029) 5613972.*

• Рамонт камп'ютараў і ноўтбукаў у Маладзечне па вул. Б. Хмяльніцкага, 36. Наяўны і безнаяўны разлік. http://mircomputerov.by ІП Тачылаў А.Н. УНП 691290239. Т. (8-029) 5754003, (8-029) 1559223, (8-0176) 551702.*

• Рамонт камп'ютараў і ноўтбукаў у Маладзечне. Дыягностыка і выезд па горадзе бясплатныя. ІП Мандрык А.А. УНП 692018244. Т. (8-033) 6659479.*

• Рамонт халадзільнікаў у Вілейцы. Выезд дадому. Гарантыя. ІП Буцер А. УНП 690259548. Т. (8-029) 5024691.*

• Рамонт халадзільнікаў. ІП Шапавал Г.В. УНП 690688393. Т. (8-029) 3395974.*

• **СПІЛУЕМ ДРЭВА.** Растэрміноўка. Скідкі. Акцыі. ІП Былінскі В.М. УНП 690475812. Т. (8-029) 5755757, (8-029) 3493379.*

• Спілуем дрэвы любой складанасці. ІП Шабуня С.А. УНП 691885349. Т. МТС (8-029) 8548742, Вэлком (8-044) 4784873.*

• Уцяпленне дамоў (пенапласт, вата), афарбоўка, падшыва. ІП Бесараб А.В. УНП 691892579. Т. (8-029) 2754603, (8-044) 4654416.*

• **УЦЯПЛЕННЕ**, аддзелка **ФАСАДА** дома, балконаў. ІП Гарлукевіч П.П. УНП 692021956. Т. (8-029) 8771721.*

• Шротаструменная (дробеструйная) апрацоўка металу. ПУП «Дойлід-С», УНП 600077312. Т. (8-029) 1921299.*

## РОЗНАЕ

### ПРАДАЕЦЦА

**Будматэрыялы, сантэхніка**

• Блокі газасілікатныя, цэгла. Дастаўка. Выгрузка. ІП Арлова В.Р. УНП 590976095. Т. (8-029) 1989988, (8-033) 6989980.*

• Цэгла (кирпич) шамотная, віцебскі цэх №1. Т. (8-044) 7557072.*

## Як падоўжыць тэрмін прымянення касавых апаратаў без сродка кантролю падатковых органаў

Савет Міністраў і Нацыянальны банк 29 чэрвеня прынялі Пастанову № 514/9 «Аб унясенні змяненняў у Пастанову Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь і Нацыянальнага банка Рэспублікі Беларусь ад 6 ліпеня 2011 г. № 924/16» (далей – Пастанова).

Змяненні ўнеслі для скарачэння выдаткаў суб'ектаў гаспадарання, а таксама развіцця прадпрымальніцкай ініцыятывы і стымулявання дзелавой актыўнасці.

Пастанова прадаўжае тэрмін забароны на выкарыстанне касавых падсумоўваючых апаратаў і машын, што друкуюць білеты (далей – касавыя апараты), з даты першай рэгістрацыі якіх у падатковым органе прайшло 6 гадоў. Тэрмін працягнулі да 1 студзеня 2020 года, калі плануюць завяршыць усе этапы падлучэння да сістэмы кантролю касавага абсталявання (далей – СККА) касавыя апараты з улікам запланаванага ўкаранення новага віду абсталявання – праграмных кас.

Пастанова прадугледжвае падаўжэнне тэрмінаў прыёму наяўных грашовых сродкаў і (або) банкаўскіх плацежных картак з прымяненнем касавых апаратаў без усталяванага сродку кантролю падатковых органаў (далей – СКПО) для юрыдычных асоб, якія заключылі грамадзянска-прававы дагавор на ўстаноўку, абслугоўванне, зняцце СКПО, а таксама для індывідуальных прадпрымальнікаў (за выключэннем этапаў, у адпаведнасці з якімі касавыя апараты ўжо падлучаныя да СККА).

Падключэнне касавага абсталявання да СККА будзе праходзіць ў тэрміны, устаноўленыя графікамі, сфармаванымі РУП «Інфармацыйна-выдавецкі цэнтр па падатках і зборах» з улікам падпісаных з суб'ектамі гаспадарання дагавораў, якія прадугледжваюць канкрэтны тэрмін падключэння кожнай адзінкі касавага абсталявання да СККА.

Графікі на падлучэнне касавага абсталявання да СККА размешчаныя на сайце Рэспубліканскага унітарнага прадпрыемства «Інфармацыйна-выдавецкі цэнтр па падатках і зборах» **http://skko.by/ (www.skko.by).**

Пастанова ўступіла ў сілу ад 8 ліпеня, за выключэннем нормы, звязанай з пераносам тэрміну забароны на выкарыстанне касавых апаратаў, з даты апошняй рэгістрацыі якіх у падатковым органе прайшло 6 гадоў. Гэтая норма ўступіла ў сілу 1 ліпеня 2018 года.

**Інспекцыя МПЗ па Маладзечанскім раёне.**

| Катэгорыя суб'ектаў прадпрымальніцкай дзейнасці | Тэрмін заключэння дагавору з РУП ІВЦ | Права на выкарыстанне касавага абсталявання без устаноўленага СКПО (пры ўмове заключэння дагавору на ўстаноўку і абслугоўванне СКПО) |
|---|---|---|
| юрыдычныя асобы, якія працуюць у гарадах абласнога падпарадкавання* і Мінску | да 01.02.2018 | да 01.05.2019 |
| юрыдычныя асобы, што працуюць у гарадах раённага падпарадкавання** | да 01.06.2018 | да 01.09.2019 |
| юрыдычныя асобы, што працуюць на астатняй тэрыторыі РБ | да 01.07.2018 | да 01.10.2019 |
| індывідуальныя прадпрымальнікі, якія працуюць у гарадах абласнога падпарадкавання* і Мінску | да 01.09.2019 | да 01.11.2019 |
| Індывідуальныя прадпрымальнікі, якія працуюць у гарадах раённага падпарадкавання** | да 01.10.2019 | да 01.12.2019 |
| Індывідуальныя прадпрымальнікі, што працуюць на астатняй тэрыторыі РБ | да 01.11.2019 | да 01.01.2020 |

# «Беларусы задарылі сувенірамі»

## Завяршыўся міжнацыянальны мастацкі праект, які аб'яднаў моладзь Германіі, Польшчы і Беларусі

МАЛАДЗЕЧНА

**Развітальную сустрэчу зладзілі 11 жніўня ў маладзечанскім музычным каледжы імя Агінскага.**



«Лясун», аўтар – Паула, удзельніца праекту з Германіі.

Праект нямецкі і польскі бакі. Запрасілі беларускую моладзь ад 16 да 20 гадоў. Для абмена культурным вопытам, знаёмства са звычаямі іншых народаў удзельнікі з'ездзілі ў тры краіны.

Восенню 2017 года беларусы наведвалі нямецкія гарады Мюнхен і Аўгсбург, вясной – польскі Шчэцін.

Падчас праекту ў Польшчы і Германіі праводзілі майстар-класы. У Шчэціне – па кераміцы, у Мюнхене – па графіцы. Наведвалі помнікі архітэктуры, музеі, слухалі экскурсіі.

– У кожнай краіне нас нечаму вучылі. Адна з ідэй праекту – наладзіць сяброўскія зносіны паміж моладдзю розных краін, – распавяла загадчыца аддзялення дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва музычнага каледжа імя Агінскага **Людміла Валковіч-Борыс.**

У жніўні беларусы запрасілі гасцей да сябе – у Маладзечна.

– Мы арганізавалі і правялі майстар-класы па выцінанцы – выразалі птушак і анёлаў, саломапляценню – рабілі кветкі з саломы, па маляваным дыванам і беларускай міфалогіі, – расказала Людміла. – На першым майстар-класе прапанавалі намаляваць і выразаць з паперы птушак. Напісаць на іх прозвішча, імя, краіну і прыляпіць да намаляванага раней вялікага дрэва – атрымалася 42 птушкі.

Падчас сустрэчы зладзілі агульную выставу ўсіх мастацкіх вырабаў, на якой прадставілі работы, зробленыя ўдзельнікамі на майстар-класах.

Са словамі падзякі выступілі арганізатары праекту, выкладчыкі і моладзь.

– Беларусы нас моцна ўразілі, завалілі падарункамі. Хачу падзякаваць усім, – прагучала ад **Монікі Штоль**, галоўнага арганізатара праекта, прадстаўніцы з нямецкага боку. – Цяпер нас аб'ядноўвае сяброўства паміж Шчэцінам, Мюнхенам і Маладзечнам.

– Мы знаёмыя ўжо дзесяць месяцаў. Сёння я зразумела, што паслядоўнасць наведвання краін была правільная, таму што Польшча мяжуе з Германіяй, атрымалася добрая дарога з Германіі ў Беларусь. Мы разам вучыліся, развіваліся, – падзялілася меркаваннем **Кася Вонска**, прадстаўніца з польскага боку, якая працавала з моладдзю.

На памяць беларусы падарылі гасцям сувеніры з беларускай сімволікай – паштоўкі, магніты, шакалад, керамічныя кубкі.

**Таццяна КАСЬЯН.**
**Фота аўтара.**

# QR-коды – інтэграцыя друку і вэбу

## Навошта і як імі карыстацца?

**Пастаянныя чытачы «Рэгіянальнай газеты», магчыма, заўважылі, што некалькі нумароў таму на першай паласе – унізе, побач са звыклым штрых-кодам – з'явіўся новы элемент.**

Невялікая квадратная выява, якую мы называем QR-кодам і прапануем адсканаваць, каб патрапіць на наш сайт. Што ж за звер такі – гэты код?

### Крыху гісторы

Першапачаткова QR-коды выкарыстоўвалі ў японскай аўтамабільнай прамысловасці. Узнікла неабходнасць змяшчаць на пэўныя аб'екты (напрыклад, запчасткі) інфармацыю пра іх, але такім чынам, каб яе змагла самастойна ўспрыняць і расшыфраваць тэхніка. Напрыклад, з дапамогай фотамодуля.

З часам QR-коды сталі распаўсюджанымі ва ўсім свеце. Зашыфраваць можна фактычна любую тэкставую інфармацыю: просты тэкст, адрас сайта або электронны пошты, геаграфічныя каардынаты... Сталі з'яўляцца цэлыя білборды, якія ўтрымлівалі адно QR-код, выходзілі кнігі з зашыфраваным такім чынам зместам... А ў кішэні ці не кожнага з нас цяпер жыве смартфон з камерай, які можа выступаць патэнцыйным дэшыфратарам інфармацыі з QR-кодаў.

### Як расшыфраваць код?

На любы сучасны смартфон – ці то пад кіраўніцтвам Android, ці то iPhone, ці нават апараты на Windows Phone – можна ўстанавіць безліч дадаткаў, якія выконваюць самыя разнастайныя задачы. Ёсць і праграмы для распазнавання QR-кодаў. Усё проста. Запускаеце такі дадатак, і смартфон актывуе камеру. Наводзіце на код – на дысплэі смартфона з'яўляецца яго расшыфраваны змест.

Многія беларусы актыўна карыстаюцца праграмай Viber. У яе інтэграваная функцыя распазнавання QR-кодаў, яна знаходзіцца ў галоўным меню дадатка. Таму калі ў маеце Viber, то аніякага дадатковага «софту» вам не спатрэбіцца.

### Для чаго нам QR-коды?

Калі распазнаць код, змешчаны на першай паласе «Рэгіянальнай газеты», — патрапіце на наш сайт **rh.by**. А яшчэ мы змяшчаем такія графічныя меткі побач з некаторымі публікацыямі. Калі адсканаеце іх – зможаце ўбачыць нашмат больш фота з падзеі ці нават відэарэпартаж пра яе!

Дзякуючы QR-кодам, мы можам цесна інтэграваць друкаваную «Рэгіянальную газету» і вэб-версію. Згадзіцеся: адсканаваць код нашмат хутчэй, чым уручную набіраць тэкст доўгай спасылкі.

Наперадзе – новыя «фішкі», якія мы будзем рэалізоўваць. А яшчэ мы гатовыя адказваць на вашы тэхнічныя пытанні. Задавайце, кантакты – ніжэй :)

Ігар ПАЛЫНСКІ,
тэхрэдактар
i.palynski
@gmail.com
twitter.com/
vozhyk_by

# «Ноччу бягу да хворага, гатовая да любога дыягназу»

## 90-гадовая маладзечанка распавяла, як працавала галоўным доктарам у сельскіх бальніцах

МАЛАДЗЕЧНА

**Днямі маладзечанцы Вікторыі Бейшар споўніцца 90 год. 50 з іх яна прысвяціла медыцыне.**

Ратавала вяскоўцаў ад цяжкіх пнеўманій, дапамагала ім змагацца з радыкулітам, прымала роды ў жанчын. А сёння Вікторыя Антонаўна па-ранейшаму чытае спецыялізаваныя медыцынскія газеты і часопісы.

### Пра сям'ю і вучобу ў гімназіі Тамаша Зана

Маці і бацька Вікторыі – дзеці Першай сусветнай вайны. Бацька з ўскраіны Мінска, мама – з Гродзенскай вобласці. На Гарадзеншчыне ў 1928 годзе нарадзілася Вікторыя.

Яшчэ за польскім часам сям'я пераехала ў Маладзечна. Нанялі пакой з кухняй у хаце, што стаяла на месцы сённяшняй валейбольнай пляцоўкі ў гарадскім парку. Мама была хатняй гаспадыняй, а тата працаваў краўцом у польскім ваенным гарадку Гелянова. Сюды часта прыбягала дачка Вікторыя, якая насіла яму абеды.

Дзеці Бейшараў, дачка і старэйшы **Станіслаў,** вучыліся ў школе. Спачатку ў той, што была ў Бухаўшчыне. Потым – у польскай гімназіі Тамаша Зана.

– Я вельмі любіла літаратуру. На вечарынах у гімназіі часта чытала вершы на польскай мове, – прыгадвае Вікторыя Антонаўна, – Захаплялася таксама і музыкай.

У гімназіі Вікторыя і Станіслаў, або Стах, як яго называлі дома, вучыліся вельмі добра. Брат, на пяць гадоў старэйшы за сястру, увогуле быў выдатнікам.

Станіслава не стала падчас вайны. Ён быў партызанскім сувязным у Маладзечне. За гэта хлопца і забілі. Дзе пахаваны Станіслаў невядома да гэтага часу. Сям'я яшчэ доўга чакала, што хлопец вернецца дамоў.

### Абраць прафесію медыка дапамагла хвароба

У 1947 годзе Вікторыя скончыла школу і адразу моцна захварэла на брушны тыф. Ляжала ў бальніцы, недалёка ад чыгуначнага вакзала. На той час там працавалі франтавыя дактары і медсёстры.

– Каб вы ведалі, як яны лячылі мяне, як даглядалі! – прыгадвае сёння мая субяседніца.

А між тым, трэба было абіраць прафесію. Неяк ў акно палаты, дзе ляжала яшчэ хворая Вікторыя, пастукалася яе знаёмая – **Наташа Карвіга** – дачка галоўнага доктара той бальніцы.

Дзяўчына сказала, што вязе свае дакументы ў Мінск, будзе паступаць вучыцца на доктара. Спытала ў хворай сяброўкі, куды адвезці яе дакументы.

– А я была настолькі ўдзячная дактарам, што лячылі мяне. Таму сказала «куды свае, туды вязі і мае», – прыгадвае Вікторыя Антонаўна.

Яшчэ вельмі слабая пасля цяжкой хваробы абітурыентка паехала здаваць экзамены ў сталічны медыцынскі інстытут. Першы іспыт, фізіку, здала на тройку. Далей справы пайшлі лепш. У выніку дзяўчына паступіла на доктара.

– Бацькі самі елі бульбу з лупінамі, але стараліся, каб у мяне ўсё было, – дзеліцца мая субяседніца. – Мама брала вялікі заплечнік, ставіла ў яго слоік малака, вакол насыпала бульбы і клала кавалкі сала. Так адпраўляла мяне на вучобу. З аднакурснікамі сябравалі, спагадалі адзін аднаму, бо ўсё ж былі гаротныя.

Калі дачка вучылася ў інстытуце, бацька-кравец пашыў дзве сукенкі. Ужо ж дарослая дзяўчына была, кажа Вікторыя Антонаўна.

Прызнаецца, што вучоба давалася ёй не цяжка. Бо любіла тое, чым займалася.

### Як немаўля спавілі ў матуліну хустку

Калі ў 1953 годзе дзяўчына скончыла інстытут, прапаноўвалі застацца на кафедры гісталогіі. Аднак маладога доктара вабіла лячэбная справа. Так адразу апынулася на станцыі хуткай дапамогі ў Маладзечне, але не надоўга:

– Крыху папрацавала – і тут загад савецкай улады – усё на ўздым сельскай гаспадаркі.

Так Вікторыя Антонаўна трапіла ў пасёлак Беразінскае і стала галоўным доктарам участковай бальніцы. Адразу ж маладому доктару далі кватэру побач з бальніцай і амбулаторыяй. У Беразінскім тады было шмат моладзі, добры клуб. Мясцовыя жыхары ставіліся да Вікторыі Антонаўны добра. Яна была адзіным доктарам у пасёлку.

**У сумачцы ў дзяўчыны заўсёды былі з сабой шпрыцы і неабходныя лекі. Неадкладная дапамога магла спатрэбіцца ў любы момант.**

– Часта маглі ноччу пастукаць у акно. Прачынаюся, бягу, гатовая да любога дыягназу. У вельмі цяжкіх выпадках звязвалася з маладзечанскай бальніцай. Гарадскія калегі не адмаўлялі, – прыгадвае сваю працу мая субяседніца.

Шмат цяжкіх выпадкаў з працы ў Беразінскім засталося ў памяці доктара.

– Неяк ноччу паклікалі на роды. А я ж не гінеколаг, – прыгадвае жанчына. – Аднак уяўляла перад вачыма карцінку з інстытуцкага падручніка. Усё прайшло добра. Жанчына нарадзіла дзіця. Толькі вось загарнуць немаўлятка не было ў што. Дык яна зняла з галавы хустку і спавіла дзіцёнка. Во якая бедная калгасніца. Было гэта ў вёсцы Белая.

### Думала, што захварэў. А ён сватацца прыйшоў

Галоўным доктарам у Беразінскім Віктрыя Антонаўна адпрацавала тры гады. Пасля на адным з вяселляў маладая доктар пазнаёмілася з будучым мужам **Яўгенам Мацулевічам:**

– Ён быў прыгожы, добры, толькі з войска прыйшоў, – кажа жанчына.

Яўген – ветэрынарны фельчар па адукацыі – паходзіў з хутара Устронне, што ля Лебедзева.

У той жа вечар Яўген пайшоў правесці дзяўчыну дамоў. Накінуў ёй на плечы свой пінжак. А там у кішэні вялізны ветэрынарны нож, смяецца Вікторыя Антонаўна.

Праз два тыдні Яўген са старшынёй калгаса ў Літве прыйшлі да Вікторыі. Тая падумала, што нехта з іх захварэў. Аказалася, Яўген прыйшоў у сваты. Маладыя людзі пажаніліся, Вікторыю Антонаўну запрасілі працаваць у лебедзеўскую бальніцу. У сям'і нарадзілася тры сыны.

Сам Яўген, калі яму было крыху за 50, загінуў ад удару маланкі.

### Не ведалі, як лячыць антыбіётыкамі

Па словах Вікторыі Антонаўны, напачатку яе працы ў 1950-х у Маладзечне была высокая дзіцячая смяротнасць.

– У гарадской бальніцы было шмат хворых дзетак, заражаліся адзін ад аднаго. А мяне ў сельскай бальніцы, дзяцей было менш, таму і хварэлі не так. Да таго ж тады толькі пачалі карыстацца антыбіётыкамі. І не ведалі, як гэта правільна рабіць. Як доўга даваць? Па колькі? А калі антыбіётык даваць даўжэй, чым трэба, ён не толькі карысці не прыносіць, а нават шкодным становіцца.

Вікторыя Антонаўна працавала да 67 год. Адказвала і за бальніцу, і за паліклініку, і за радзільню. Абслугоўвала каля васьмі тысяч чалавек. Ратавала хворых без ультрагукавога даследвання і іншага сучаснага абсталявання.

З працы пайшла таму, што ўжо не магла бегаць па выкліках. А яшчэ, каб не перашкаджаць маладому доктару, які прыйшоў працаваць у Лебедзева. Бо па шматгадовай звычцы людзі па-ранейшаму ішлі да яе.

Да хворых заўсёды ставілася з любоўю і цярпеннем. Памятала словы мамы: «Дачушка, ніколі не крыўдзі простых людзей».

**Аксана ЯРАШОНАК.**



Фота з сямейнага архіва Вікторыі Бейшар.

**1940 год. Маладзечна. Дом на месцы сённяшняй валейбольнай пляцоўкі ў гарадскім парку. Сям'я Бейшараў пакуль у поўным зборы. Вікторыя – справа. З імі – знаёмая дзяўчынка.**

# «Песняры» і «J:mors» выступілі на бясплатным канцэрце ў Маладзечне не проста так

## Тлумачым, што да чаго

МАЛАДЗЕЧНА

**Саліст «J:mors» падзяліўся, калі выйдзе новы альбом групы і пахваліў маладзечанцаў. За што – чытайце далей.**



Лідар гурта «J:mors» Уладзімір Пугач.

11 жніўня ў амфітэатры прайшоў канцэрт у гонар святкавання 15-годдзя праграмы транспамежнага супрацоўніцтва «Польшча-Беларусь-Украіна». Яна працуе ў межах Еўрапейскага інструмента суседства і партнёрства і падтрымлівае праекты, накіраваныя на развіццё ўздоўж знешніх межаў ЕС, дапамагае палепшыць узровень жыцця ў краінах-удзельніцах.

Толькі ў перыяд 2007-2013 гадоў у праграме рэалізавалі 117 праектаў на суму больш за 170 мільёнаў еўра. Адным з праектаў рэспубліканскага ўзроўню ў межах праграмы стала рэканструкцыя беларускай часткі памежнага пераходу «Пясчатка», што на мяжы з Польшчай. Аб'ём фінансавання ЕС склаў каля 11 мільёнаў еўра.

У Маладзечне зладзілі адзін з чатырох канцэртаў, якія правялі ў рамках праграмы ў Беларусі.

Першымі выступілі «Песняры». Прагучалі «Белавежская пушча», «Касіў Ясь канюшыну», акапэльна выканалі паланэз Агінскага. Пасля выступу ўсе ахвотныя маглі зрабіць фота з выканаўцамі.

У сучасным складзе ансамбля – ураджэнец Маладзечна **Артур Міхайлаў**, які атрымаў гран-пры рэгіянальнага фестывалю-конкурсу выканаўцаў эстраднай песні «Адна зямля» ў 2012 годзе.

### Пугач танцаваў з глядачкай

Падчас выступу «J:mors» саліст гурта **Уладзімір Пугач** выйшаў са сцэны да публікі і нават станцаваў з адной з наведвальніц. Прагучалі «Глядзі», «Не памірай», «Ледаколы», «Беларускае золата». Калі гучала апошняя песня, саліст запрасіў гледачоў уключыць ліхтарыкі на тэлефонах і падняць рукі ўгору.

– Публіка жывая і актыўная. Заўжды аддчуваю энергаабмен – ты аддаеш, і адразу атрымліваеш назад, – падзяліўся спявак у размове з карэспандэнтам «РГ». – Я слухаю ўсе жанры: джаз, хіп-хоп, рок, поп, вельмі люблю этна-музыку. З беларускіх рок-выканаўцаў падабаецца «Nizkiz», «Akute». Ведаеце, як пішуць песні? З дапамогай мыслевобразаў. Ідэі прыходзяць не тады, калі павінны, а калі самі вырашаць. А наш наступны альбом выйдзе ў 2019 годзе, і прыкладна палова ўжо гатовая.

Пугач не абмінуў кампліментам горад:

> **– Маладзечна мне падабаецца, асабліва гарадскі парк – прыгожы. Беларускія невялікія гарады зусім розныя. Заўсёды бачна, дзе людзі даглядаюць за прасторай, за атмасферай у горадзе. Маладзечна – адзін з такіх.**

### Чаму прыехалі ў Маладзечна

Канцэрт у Маладзечне стаў завяршальным у межах праграмы. Усяго зладзілі 14 бясплатных канцэртаў у трох краінах – у рэгіёнах, што ўваходзяць у тэрыторыю праграмы.

– Кожная краіна выбірала канцэрты на свой густ, галоўнае, каб яны былі звязаныя па магчымасці з праектнай дзейнасцю, – паведаміў **Максім Алданаў**, кіраўнік прадстаўніцтва праграмы «Польшча-Беларусь-Украіна» 2014-2020 у Беларусі.

У Беларусі вырашылі зладзіць сярэдневечны, класічны, народны і сучасны канцэрты.

– Маладзечна мае добрую сцэну ў Летнім амфітэатры, мы вырашылі правесці тут асноўны завяршальны канцэрт, запрасіць зорак беларускай эстрады. Абралі менавіта гэтыя калектывы, таму што «Песняры» – легенда, беларусы, палякі і ўкраінцы іх ведаюць і любяць. «J:mors» – папулярны беларускі гурт, – расказаў Алданаў.

На ўсіх канцэртах прадстаўлялі кампазіцыі польскіх, беларускіх і ўкраінскіх выканаўцаў.

– У Гомелі выступаў гарадскі сімфанічны аркестр, гралі мелодыі гэтых краін, да прыкладу, паланэз Агінскага. У Камянцы былі «Стары Ольса» і «Irdorath», – распавяла **Валянціна Цюхай**, арганізатар канцэртаў па святкаванні 15-годдзя праграмы.

### Што зрабілі дзякуючы праграме

На працягу 15 гадоў праграма трансгранічнага супрацоўніцтва «Польшча-Беларусь-Украіна» дапамагае развіваць прыгранічныя раёны гэтых краін. Яе праводзілі ў тры перыяды – 2004-2006, 2007-2013, 2014-2020.

За гэты час рэалізавалі шмат праектаў. Яны накіраваныя на ахову здароўя, абарону і пашырэнне культурнай і прыроднай спадчыны прыгранічных рэгіёнаў, рамонт і будаўніцтва дарог, бяспеку, паляпшэнне інфраструктуры пагранічных пунктаў пропуску. Усе праекты некамерцыйныя.

Да прыкладу, Мінскі абласны раддом закупіць абсталяванне на суму каля 800 тысяч еўра. Адрэстаўравалі Гудзевіцкі музей. Брэсцкая абласная бальніца для правядзення аперацый на сэрцы набыла ангіограф. У вёсцы Варацэвічы Брэсцкай вобласці стварылі музей Напалеона Орды. 90% ад агульнага бюджэта кожнага з праектаў фінансаваў ЕС.

Праекты могуць цягнуцца да 24 месяцаў.

Ад 1 жніўня да 31 кастрычніка адкрыты конкурс малых праектаў, тэматычная мэта – спадчына. Сума гранта – ад 20 да 60 тысяч еўра.

**Таццяна КАСЬЯН.**
**Фота аўтара.**

# Не працуюць і не натхняюцца праграмай КПСС

## Што пісала маладзечанская «раёнка» пра дармаедаў 1960-х

МАЛАДЗЕЧНА

*Заканчэнне. Пачатак у №32.*

**Напачатку 1960-х маладзечанская раённая газета «Сцяг Кастрычніка» друкавала шмат матэрыялаў, у якіх выкрывалі дармаедаў. Прапаную некаторыя з іх.**

### Няўжо дармаедку нельга заклікаць да парадку?

У №6 ад 13 студзеня 1962 года чытачам прапанавалі матэрыял «Дармаедка-дэбашырка» пра жыхарку пасёлка Беразінскі **Феню Странкоўскую.**

«Днём у рабочы час, ці вечарам гэту жанчыну часта можна сустрэць то ў магазінах пасёлка, то ў памяшканні заводаўпраўлення, або дома, дзя тая ляжыць на ложку. Можна падумаць, што жанчына хворая і ёй нельга працаваць.

Не. Наадварот, наконт здароўя многія могуць ёй пазаздросціць. Гэта проста дармаедка, якая вось ужо на працягу амаль двух год ухіляецца ад працы. Странкоўскую не раз уладкоўвалі на работу, але больш двух-трох тыдняў на адным месцы яна не папрацуе, а ў апошні час наогул не імкнецца ўладкоўвацца на работу.

Грошы, якія атрымлівае на выхаванне двух дзяцей, яна прапівае, часта хуліганіць. Странкоўская ўжо некалькі разоў прыцягвалася за гэта да судовай адказнасці, але вывадаў не зрабіла.

Нядаўна Странкоўская зноў брыдкасловіла ў харчовым магазіне пасёлка. Будучы ў п'яным выглядзе, яна дамагалася купіць хмяльнога. Няўжо дармаедку нельга заклікаць да парадку?» – пытаецца аўтар **С. Харытонаў**.

### «Барацьба з дармаедамі – справа кожнага»

Допіс пад такой назвай з'явіўся на старонках маладзечанскай раённай газеты 1 чэрвеня 1962 года пад рубрыкай «На маральна-этычныя тэмы».

«Добрасумленная праца на карысць грамадства: хто не працуе, той не есць» – гэта адзін з важнейшых прынцыпаў, які ўваходзіць у маральны кодэкс будаўніка камунізма. Выхаванне чалавека ў камуністычным духу немагчыма без яго ўдзелу ў грамадска-карысных працы. Праца выхоўвае ў чалавеку высокія маральныя якасці.

Рысы новага чалавека – чалавека камуністычнага будучага ўжо зараз увасабляюць у сябе лепшыя нашы працаўнікі, якіх народ па праву называе маякамі камунізма.

Але побач з маякамі ёсць яшчэ і такія людзі, якіх інакш як дармаедамі, трутнямі не назавеш. Не жадаючы сумленна працаваць, нічога не даючы грамадству, яны хочуць жыць за яго кошт.

Хто не ведае базарных гандлярак – сясцёр **Т.А. Вароніну** і **А.А. Захараву**? Мужы іх працуюць, а яны на працягу усяго года займаюцца спекуляцыяй.

**Гэта яны ў базарныя дні надакучліва ліпнуць да сумленных людзей з прапановай купіць нейлонавыя і капронавыя блузкі, шалі, дзіцячыя шарсцяныя і капронавыя шапачкі. Іх неаднаразова затрымлівалі работнікі міліцыі на рынках у Маладзечна і Вілейцы.**

Аб іх гаварыла і насценная газета гораддзела міліцыі, але канкрэтных мер да іх так і не прынята да гэтага часу. Гавораць, дробная спекуляцыя і, напэўна, чакаюць пакуль яна перарасце ў буйную афёру. А сёстры-спекулянткі, між тым, карыстаюцца гэтым.

### П'янствуюць, навязваюць людзям свае паслугі, не плацяць аліменты

А вось другая форма дармаедства і бытавога разлажэння. Многія ў горадзе ведаюць краўцоў **Н.Д. Шкадуна** і **Н.Г. Капцюга**. Адзінае іх імкненне – больш урваць ад грамадства і менш зрабіць для яго.

Шкадун і Капцюг развяліся з жонкамі, пакінулі дзяцей. Ухіляючыся ад уплаты аліментаў. А таксама ад абкладання падаткамі, яны ходзяць з кватэры ў кватэру і навязваюць людзям свае паслугі. Прычым, абодва неаднаразова судзіміся: Шкадун – за хуліганства, Капцюг – за жульніцтва, падман заказчыкаў.

Нічога добрага нельга сказаць і аб рамізніках **М.Д. Самалю і В.І. Чаеўскім**. Абодва яны не працуюць, трымаюць коней. Ад узорвання агародаў грамадзянам маюць немалыя даходы, а свой промысел у фінорганах не рэгіструюць.

Акрамя таго, абодва п'янствуюць, наладжваюць бойкі. Неаднаразова прыцягваліся да суровай адказнасці за хуліганства. У маі месяцы Самаль, напрыклад, уварваўся п'яны ў дом суседзяў **Пятра** і **Васіля Навашаў** і учыніў там бойку.




Спекулянтаў выкрывалі і газетныя публікацыі, і савецкія плакаты.

Фота з архіва «РГ».

### Як патуранне дзялкам і жулікам садзейнічае дармаедству

Нярэдкія ў нас і такія выпадкі, калі некаторыя кіраўнікі гаспадарчых арганізацый замест таго, каб назаўсёды зачыніць усе ўваходы для антыграмадскіх элементаў, хочуць яны гэтага ці не хочуць, ствараюць ім спрыяльныя ўмовы. Іменна так зрабіў начальнік будупраўлення 64 тав. **Кірылаў**.

Ён заключыў працоўнае пагадненне з прыватнымі асобамі – мужам і жонкай **Дзям'янавымі** на адбор і падшыўку дакументаў, заплаціў ім 110 рублёў. Гэтую работу ім з поспехам мог бы выканаць камбінат бытавога абслугоўвання. Патуранне ўсялякага роду дзялкам і жулікам – адна з умоў, што садзейнічае дармаедству.

Паразітычныя элементы жывуць не дзе-небудзь на іншай планеце. Іх бачаць, з імі сутыкаюцца многія людзі – суседзі, знаёмыя, службовыя асобы. Але вось што крыўдна: часта на дармаедства і хцівасць мы глядзім раўнадушна, прытрымліваючыся прынцыпу: мая хата з краю. А гэта якраз і трэба дармаедам. Не так павінна быць.

Вакол такіх асоб трэба ствараць абстаноўку ўсеагульнага асуджэння і пагарды. Барацьбу з дармаедствам, як ганебным перажыткам мінулага, трэба весці рашуча, да поўнага яго выкаранення. Гэта справа не толькі адміністрацыйных, судовых органаў, але і ўсёй грамадскасці, кожнага чалавека – актыўнага будаўніка камунізма.» – піша старшы інспектар гарадскога фінансавага аддзела **М. Рэшатаў.**

Падрыхтаваў
Вадзім ПРАЎРАЦКІ,
Мядзел.

### ● КАЛЯНДАР

**17 ЖНІЎНЯ**

**1934.** Польскімі ўладамі створаны Бяроза-Картузскі лагер. У савецкай гістарыяграфіі – канцэнтрацыйны, польскай – месца ізаляцыі. Яго вязнямі былі праціўнікі санацыйнага рэжыму Пілсудскага, у т.л. беларускія дзеячы. Пастаяннай практыкай лагера былі катаванні вязняў.

**18 ЖНІЎНЯ**

**1924.** У Мінску арыштаваны Барыс Савінкаў. Знакаміты расійскі пісьменнік і тэрарыст, эсэр.

**19 ЖНІЎНЯ**

**1991.** Спроба дзяржаўнага перавароту ў СССР: змоўшчыкі адхілілі ад улады Міхаіла Гарбачова і заявілі аб увядзенні надзвычайнага становішча.

**20 ЖНІЎНЯ**

**1991.** Эстонія абвяшчае сваю незалежнасць ад СССР.

**21 ЖНІЎНЯ**



Даніель Канаржэўскі.

**1871.** У Санкт-Пецярбургу нарадзіўся Даніель Канаржэўскі, расійскі і польскі военачальнік, генерал. Камандаваў аперацыйнай групай «Беняконі» у структуры Войскаў Сярэдняй Літвы. Дачка Канаржэўскага была замужам за Уладзімірам Лашкевічам, гаспадаром маёнтка Даўкшышкі Сольскай гміны, цяпер Ашмянскі раён.

**22 ЖНІЎНЯ**

**1898.** Нарадзіўся Генрык Лаўмянскі, польскі гісторык, даследчык Вялікага Княства Літоўскага.

**1932.** БіБіСі пачала эксперэментальныя трансляцыі тэлевізійнай праграмы.

**2008.** Расійска-грузінская вайна. Скончылася расійская акупацыя Горы.

**23 ЖНІЎНЯ**

**1914.** Сухі закон у Расіі. На перыяд вайны забаронены гандаль спіртнымі напоямі.

**1942.** Пачалася Сталінградская бітва. Адна з найбуйнейшых бітва 2-й сусветнай вайны. Працягвалася да 2 лютага 1943 года. Сталінград знішчыў сярод немцаў міф аб беспамылковасці рашэнняў Гітлера. Частка нямецкіх афіцэраў пасля Сталінградскій бітвы пачалі шукаць спосаб скончэння вайны і адхілення ад улады Гітлера.

Мікола ГАЙДУК.

# Пра вайну трэба памятаць, каб яе не было

## Нямецкія і беларускія студэнты добраўпарадкавалі могілкі часоў Першай сусветнай вайны на Мядзельшчыне

Глядзіце **відэарэпартаж** з падзеі **на rh.by!** Адсканіруйце QR-код або перайдзіце па спасылцы: **tinyurl.com/ych5bvzd.**



МЯДЗЕЛ

**11 жніўня маладыя людзі з Беларусі і Германіі прыбіралі нямецкае пахаванне Першай сусветнай вайны ў вёсцы Пронькі на Мядзельшчыне. А яшчэ гаварылі пра тое, чаму не варта, каб Першая сусветная заставалася ў цені Другой.**

Маладыя людзі – удзельнікі беларуска-нямецкага летніка па доглядзе за вайсковымі пахаваннямі. Летнік працуе ў розных краінах Еўропы ўжо некалькі год. Ладзіць яго Народны саюз Германіі па догляду за вайсковымі пахаваннямі – арганізацыя, створаная ў 1919 годзе.

Па словах **Тацццяны Мастыкі,** адной з каардынатараў летніка, сёлета працуюць 24 чалавекі. Дзесяць – з беларускага боку, дзесяць – з нямецкага, і па два кіраўнікі з кожнай краіны.



Тацццяна Мастыка.

– Мы збіраемся для таго, каб працаваць на нямецкіх пахаваннях, а таксама на савецкіх і габрэйскіх. Моладзь прыязджае, каб больш даведацца пра гісторыю войнаў. У дадзеным выпадку пра Першую і Другую сусветныя, – распавяла «Рэгіянальнай газеце» Тацццяна Мастыка.

### Прычыны Другой сусветнай – у нявырашаных канфліктах Першай

Штогод летнік мяняе лакацыю. Летась удзельнікі працавалі ў Мінску і Бярозе. Сёлета пачалі з Брэсцкай крэпасці і на два дні прыехалі на Мядзельшчыну, дзе ў 1916 годзе стаяла лінія фронту і праходзіла вядомая Нарачанская аперацыя.

– Мы звычайна засяроджваемся на тэме Другой сусветнай вайны. У той час, як прычыны Другой сусветнай вайны знаходзяцца ў нявырашаных канфліктах Першай.

Сваю працу летнік закончыць у Мінску. Тут, у філіяле Нацыянальнага гістарычнага музея, маладыя людзі падрыхтуюць выставу «Дзве памяці адной вайны».

Па думку арганізатараў, звычайныя студэнты не змогуць падрыхтаваць паўнавартасную гістарычную выставу. Але ў іх ёсць сямейныя сведчанні пра Першую і Другую сусветныя войны і ёсць разуменне гэтых падзей. Мы працуем не столькі з аб'ектамі, колькі з памяццю, – адзначыла Тацццяна.



Валерыя Чэркас з Беларусі (злева) і Віёла Шнайдар з Германіі працуюць разам.

### За агульным трагізмам і гераізмам часам не бачым канкрэтнага чалавека

Вывучаючы тэму войнаў, арганізатары летніка заўважылі, што за памяццю пра гераічныя учынкі, за маштабам трагедыі і святкаваннямі Перамогі, мы часам не бачым лёсаў адзінкавых людзей.

– Калі мы пабачым не лічбы і маштабы, а зможам гаварыць пра лёс канкрэтнага чалавека, тады мы ўбачым увесь жах і трагізм вайны. А таксама варта адказаць на пытанне, чаму так сталася ў пачатку 20 стагоддзя, што маладыя людзі, якія маглі б вучыцца, працаваць, кахаць, вымушаныя былі ваяваць, – кажа Тацццяна.

### Немцы не разумеюць, навошта гуляць у вайну

Тэма войнаў аказалася блізкай моладзі з Нямеччыны, бо адбілася на большасці іх сем'яў. І ўсё ж адрозненні і ва ўспрыманні, і ў захаванні памяці ў беларусаў і немцаў ёсць.

Так госці з Германіі не могуць зразумець, навошта ў нас праводзяць вайсковыя рэканструкцыі? Чаму падчас пэўных гістарычных дат у Брэсцкай крэпасці або на лініі Сталіна аднаўляюць падзеі тых часоў? Навошта гуляюць у вайну?

Нямецкі гісторык-магістрант **Юліян** распавёў, што доўгі час у яго сям'і, як і ў Германіі ўвогуле, не прынята было гаварыць пра вайну. Толькі нядаўна дзядуля пачаў крыху распавядаць унуку пра ваенныя падзеі:



Юліян Фрайтаг.

– Дзядуля быў салдатам Другой сусветнай вайны ў вельмі маладым узросце. Яму было тады 15. Адзін год падчас вайны быў у Англіі. Пасля вярнуўся ў Германію.

Па словах Юліяна, у яго на радзіме, як і ў Беларусі, пра Першую сусветную кажуць менш. Магчыма, таму, што яна не адбывалася на нямецкай тэрыторыі.

Крыху больш пра падзеі 1914-1918 года пачалі згадваць у сувязі са стагодовым юбілеем Першай сусветнай: ладзяць розныя гістарычныя выставы, з'яўляецца літаратура на гэтую тэму. На думку Юліяна, нельга разабрацца ў прычынах і падзеях Другой вайны, не ведаючы пра Першую.

### Фартэп'яна і «пахаронка» – сямейныя сведчанні пра вайну

Пасля працы арганізатары зладзілі гутарку. Беларускія і нямецкія студэнты распавядалі пра сувязь сваіх сям'яў з ваеннымі падзеямі.

**Кацярына** з Беларусі расказала пра тое, як яе дзядуля – вайсковы музыкант – прывёз з Нямеччыны старое фартэп'яна. На адной з клавіш пазначаны год яго першай настройкі – 1941. Цяпер гэты інструмент стаіць дома у Кацярыны. Дзяўчына скончыла музычную школу і часам грае на ім.

**Тэрэза** з Германіі падзялілася сваімі ўспамінамі. У іх сям'і пра вайну гаварылі тады, калі ўнукі натыкаліся на рэчы дзядулі-франтавіка. Аднак усур'ёз цікавіцца ваеннай гісторыяй дзяўчына пачала ад 2012 года. Яна даведалася, што падчас Другой сусветнай родны брат яе бабулі апынуўся на тэрыторыі сучаснай Чэхіі. Адтуль байцы атрымалі ліст, што іх сын загінуў падчас службовай паездкі. Гэтае папяровае паведамленне на пергаменце і сёння захоўваецца ў сям'і.




Прозвішчы на некаторых помніках вельмі нагадваюць беларускія. Напрыклад, як тут – Чаховіч.

Мы спыталі ў арганізатараў летніка, навошта памятаць пра ваенныя падзеі? Адказ быў просты: каб яны не паўтараліся.

**Аксана ЯРАШОНАК.**
**Фота Аляксандра МАНЦЭВІЧА.**

## Як за дагледжанае пахаванне Першай сусветнай немцы даравалі вяскоўцам жыццё падчас Другой

Гісторыю могілак у Проньках, пачутую ў 1973 годзе, распавёў наш чытач **Яўген Полудваранін:**

– У 1973 годзе я жыў на кватэры ў Пронькаў. Тады асушаў балота паміж Пронькамі і Памошшам. Гаспадар распавёў мне такую гісторыю. Пасля Першай сусветнай вайны па дагавору паміж урадамі Германіі і Польшчы вызначылі тэрыторыю для могілак. У Пронькі прыехаў прадстаўнік з Германіі. Пры ім з усёй акругі звозілі рэшткі нямецкіх салдат і хавалі. Могілкі пры Польшчы былі дагледжаныя.

У Другую сусветную партызаны забілі немца каля Пронек. За гэта нямецкія салдаты хацелі спаліць вёску разам з жыхарамі. Аднак іх афіцэр сказаў, што вяскоўцы не вінаватыя, а могілкі дагледжаныя. Таму людзям даруюць жыццё.

Яшчэ ў Проньках ёсць калодзеж, што выкапалі немцы. Замест звычайных бетонных кольцаў, сцены выкладзеныя камянямі і мохам.

**А.Я.**

# Дзіяна Арбеніна: «Мне вельмі падабаецца беларуская мова»

## Да 25-годдзя гурта «Начныя Снайперы» карэспандэнт «Рэгіянальнай газеты» згадвае, як спяваў са знакамітай ураджэнкай Валожына

**19 жніўня 1993 года ў Санкт-Пецярбургу Дзіяна Арбеніна сустрэла Святлану Сурганаву. Ад гэтай даты адлічваецца гісторыя спачатку дуэта, а пасля і рок-гурта «Начныя Снайперы». І хоць праз колькі год іх творчыя шляхі разышліся, «Снайперы» працягваюць збіраць стадыёны, а Арбеніна – пісаць новыя песні і прыдумваць розныя незвычайныя штукі.**



Дзіяна Арбеніна (злева) і аўтар гэтых радкоў. Фота зроблена падчас праслухоўвання ў «Снайперскі хор».

...Вы ведаеце, чаму пэўная музыка вам падабаецца, а іншая – не? Я так і не здолеў разабрацца ў каранях гэтай з'явы. Зразумела, што можна раскладаць па палічках: класны тэкст, прыемная мелодыя, цікавая аранжыроўка, якасны запіс і гэтак далей. Аднак можна сабраць усе гэтыя складнікі ў адно – а яно проста «не зойдзе», як кажуць. А бывае, ніякіх лагічных абгрунтаванняў любові да пэўнай музыкі не знаходзіш, ды і шукаць не хочацца. Проста – тваё. Так у мяне з "Начнымі Снайперамі".

### Праслухоўванне

Пяць год таму 20-годдзе гурта Дзіяна Арбеніна вырашыла адзначыць з размахам. Канцэрт у маскоўскім клубе Crocus City Hall – гэта як у Беларусі сабраць «Мінск-Арэну». Вельмі статусна, карацей. Такую імпрэзу могуць дазволіць сабе толькі сапраўды цікавыя публіцы музыкі.

За колькі месяцаў да падзеі ў інтэрнэце з'явілася абвестка: Арбеніна збірае хор з фанатаў, каб выступіць з імі на юбілейным канцэрце. У мяне, маладога беларускага рок-музыкі, які вырас у тым ліку на яе песнях, нават пытання не паўстала, ці падаваць заяўку. Па ўмовах трэба было даслаць запіс любой з песень «Снайпераў» ва ўласным выкананні. У архіве тут жа знайшоў запіс «Рулеткі» – адной з маіх любімых песень Арбенінай, якую мы нярадка спявалі на кватэрніках і акустычных канцэртах.

Праз нейкі час лепшыя з дасланых трэкаў размясцілі ў інтэрнэце, а іх аўтараў запрасілі на праслухоўванне, якое мусіла весці ўласна Дзіяна Арбеніна. Мой запіс быў сярод іх.

Праслухоўванне праходзіла ў Маскве ў сярэдзіне лістапада, за пару тыдняў да вялікага канцэрту. Ноч у цягніку, пара кіламетраў пешшу ад Беларускага вакзала – і перада мной клуб Arena Moscow. Побач з уваходам – невялікі натоўп. Знаёмлюся. На праслухоўванне прыехалі хлопцы і дзяўчаты з самых розных краін – Беларусі, Украіны, Грузіі, з усіх куткоў Расіі, агулам чалавек 200. "Зайцы" – так называе сама сябе супольнасць прыхільнікаў творчасці «Начных Снайпераў». Карані – у гісторыі, як Арбеніна прапускала на ўласныя канцэрты прыхільнікаў, якія не мелі магчымасці заплаціць за квіток.

Нас папярэдзілі: трэба падрыхтаваць маленькі, не болей за 40 секунд, урывак з абсалютна любой песні, і выканаць для Арбенінай. А далей – як пойдзе. У імправізаванай чарзе да запаветных дзвярэй, дзе праходзіла праслухоўванне, сабралася невялікая кампанія завадатараў, у якой апынуўся і я. Мы пачыналі песню, і ўвесь астатні натоўп далучаўся. Зімправізавалі ці не ўсе «снайперскія» хіты :)

У спісах я быў недзе ў сярэдзіне. Выклікаюць. Заходжу. Бачу дырэктара гурта **Ларысу Пальцаву,** бубнача **Міцю Гарэлава,** некалькі незнаёмых асобаў... Арбеніна нібы схавалася ў куточак і ўважліва пазірала на ўсіх, хто заходзіў.

– Што спяваць будзем? – пытаецца.

І тут разумею: атмасфера вясёлага чакання настолькі зацягнула, што дагэтуль нават не вырашыўся!.. А ў галаве – адно напаўзагадкавая песня «Засіялі зоркі», якую Дзіяна Арбеніна часта спявае, калі выступае ў Беларусі. І заўсёды падкрэслівае, што менавіта тут – яе радзіма.

Засіялі зоркі, заспявалі пеўні, зашумеў зялёны лес, а я заспяваў. На другім куплеце (яны кароценькія, у час укладваўся) чую, што Арбеніна спявае са мной!

Пасля былі ўдакладненні пра вымаўленне некалькіх беларускіх слоў, сальфеджыя-экзерсіс (хармайстар **Святлана Сандракова** грала на сінтэзатары мелодыю, якую трэба было паўтарыць голасам), рытмічнае практыкаванне ад Міці Гарэлава...

– Прыехаць-та зможаце, калі мы вас запросім? – спытала Арбеніна.

– А навошта я тады тут? – усміхнуўся ў адказ.

Фота на памяць – і чакаю вердыкту. Праслухоўванне ішло некалькі доўгіх гадзін, а пасля заявілі: вынікі – толькі вечарам. Да цягніка на радзіму заставалася болей за паўдня, таму той жа кампаніяй «зайцаў»-завадатараў рушылі ў кавярню, пазнаёміліся, паспявалі і паспадзяваліся, што ў тым жа складзе сустрэнемся ў «Крокусе».

Так і атрымалася! За гадзіну да цягніка злавіў wi-fi на вакзале і пабачыў сваё прозвішча ў спісе «Снайперскага хору».

### «Фа-фа-фа»

Праз пару дзён наваспечаным харыстам, якіх умоўна падзялілі на сапрана і альтоў, даслалі партыі. У нас была ўсяго адна песня, затое якая – культавая «Кошка» з альбома «Рубеж», які выйшаў у 2001-м!.. І ведаеце, раней мне думалася, што ў хоры спяваць зусім проста. Дзе там: партыі апынуліся вельмі мудрагелістымі. «Фа-фа-фа», «ой-ёй-ёй-ёй», вакалізы і распеўкі, дзе трэба спяваць разам, дзе – не...

Перад самім канцэртам прыйшлося колькі дзён правесці ў Маскве. Туды дабраўся аўтаспынам, пусціў пажыць да сябе знакаміты **Макс Іўкін** – лідар беларуска-латвійскага гурта «Балцкі субстрат», які ў той момант працаваў кампазітарам у маскоўскім лялечным тэатры.

У нас было тры рэпетыцыі. На першых мы вучыліся дыхаць (неверагодна карысны досвед!), замацоўвалі партыі, а на апошнюю прыехалі «Снайперы» ў поўным складзе, і мы зладзілі нешта кшталту генеральнага прагону. Арбеніна схавала вочы пад цёмныя акуляры і пасля рэпетыцыі заявіла:

> **– Рабяты, плачу, калі вас чую. Гэта гучыць проста фантастычна!**

Гэта не магло не натхняць!

Юбілейны канцэрт быў падзелены на дзве часткі: сольная акустыка Дзіяны Арбенінай – у першай і выступленне «Начных Снайпераў» поўным складам – у другой. Выступ «Снайперскага хору» мусіў быць апошнім нумарам імпрэзы. Брэндаваныя «снайперскія» саколкі (захоўваю!), ліхтарыкі для стварэння антуражу (дагэтуль працуе), бэйджы... Апошні інструктаж – і мы на сцэне.

Уявіце: перад вамі – некалькі тысяч гледачоў, побач стаіць кумір, і зараз вы станеце часткай нечага значнага і вялікага.

– Вось нарэшце – апафеоз нашага вечару, – звяртаецца Арбеніна да гледачоў. – Дзеля гэтага варта было 20 год спяваць. Хачу вам прадставіць: гэта – Снайперскі хор!

І прызнаецца, што да апошняга моманту баялася, што нешта сарвецца, не атрымаецца... Але мы зрабілі гэта.

Тры хвіліны на сцэне праляцелі, як імгненне. Вы, канешне, можаце здзівіцца: дзеля трох хвілін вось гэта вось усё?.. Адкажу без затрымкі: дзеля такіх імгненняў, мусіць, наогул варта жыць.

...Арбеніна прыйшла ў грымёрку хора, і мы проста гутарылі. Спявачка дзякавала нам, мы – ёй. Прапанаваў па рок-н-рольнай традыцыі памяняцца медыятарамі, Арбеніна ўзяла мой, а ў самой з сабой не апынулася. Паабяцала, што пры нагодзе аддасць.

Пасля была ноч у кавярні з «зайцамі», цягнік у Беларусь і ўспаміны, якія засталіся на ўсё жыццё.

### «Я люблю беларускую мову!»

Сярод удзельнікаў «Снайперскага хору», дарэчы, таксама былі **Ксюша Жук** і **Арцём Лук'яненка** – тыя самыя, якія пад назвай «Naviband» прадставілі Беларусь на леташнім «Еўрабачанні». Упершыню за гісторыю песеннага конкурсу беларускія канкурсанты спявалі па-беларуску.

З «зайцамі» з той кампаніі, якая склалася яшчэ падчас праслухоўвання, камунікуем і цяпер, ездзім нават у госці адно да аднаго.

...Аднойчы падчас інтэрв'ю адной беларускай радыёстанцыі Дзіяна Арбеніна прыгадала, што ёй вельмі прыемна было пачуць беларускую мову на тым самым праслухоўванні, і заявіла, што запомніла некалькі маіх моўных урокаў :) У любові да беларускай мовы Арбеніна прызналася і мне асабіста, калі пару год таму падчас «Славянскага базару» ў Віцебску давялося сустрэцца на інтэрв'ю. Я тады перайшоў на беларускую і па рэакцыі спявачкі зразумеў: не хлусіць! Вось толькі медыятара ў яе з сабой тады зноў не было.

Дзіяна Сяргееўна, вы тырчыце мне медыятар :)

Даведка «РГ».
Дзіяна Арбеніна (дзявочае прозвішча – Кулачэнка) нарадзілася 8 ліпеня 1974 года ў Валожыне ў журналісцкай сям'і. Калі ёй было тры гады, сям'я пераехала ў Барысаў, а затым – на Поўнач. Арбеніна жыла і вучылася ў Магадане.

Гурт «Начныя Снайперы» выпусціў амаль паўтары дзясяткі студыйных альбомаў, актыўна выступае з гастролямі па ўсім свеце.

**Ігар ПАЛЫНСКІ.**
**Фота прадастаўлена аўтарам.**




Мікалай Гергель.

## Першая ліга. Гергеля звольнілі з паста галоўнага трэнера «Смаргоні»

СМАРГОНЬ

Кіраўніцтва ФК «Смаргонь» скасавала кантракт з галоўным трэнерам каманды Мікалаем Гергелем, паведамляе прэс-служба клуба.

Пасля 16 праведзеных матчаў у першай лізе «Смаргонь» пад кіраўніцтвам Гергеля набрала 18 ачкоў і займае 8-е месца ў турнірнай табліцы.

Кіравацаь трэніроўкамі будзе выконваючы абавязкі галоўнага трэнера **Аляксей Дварэцкі**.

**Паводле football.by.**

## «Смаргонь» згуляла ўнічыю

СМАРГОНЬ

Гасцявы матч 11 жніўня ў «Оршы» закончыўся нічыёй.

Па выніках 11 тура каманда займае восьмы радок турнірнай табліцы паміж клубамі з Мікашэвічаў і Жыткавічаў.

## Другая ліга. «Ашмяны» прайгралі «Асіповічам»

АШМЯНЫ

На матчы ў гасцях ашмянцы прапусцілі два галы. Забіць у адказ не ўдалося.

Пасля 17 тура «Ашмяны» займаюць чацверты радок турнірнай табліцы.

## «Маладзечна» згуляла ўнічыю

МАЛАДЗЕЧНА

11 жніўня маладзечанская каманда гуляла ў гасцях з «Уздой».

Матч закончыўся з лікам 2:2. З боку гасцей галы трапілі ў вароты ад **Паўла Галубовіча** на 29-й хвіліне і ад **Сяргея Крата** на 67-й.

Па выніках 17 тура каманда займае 12 радок турнірнай табліцы і размяшчаецца паміж мінскім «Энергетыкам» і «Клецкам».

**Дзмітры РУХЛЕВІЧ.**






Фота забяспечана Васілём ЛЯБЕЦКІМ.

У сваёй узроставай катэгорыі 69-гадовы бягун бясспрэчны пераможца.

# 69-гадовы бягун Васіль Лябецкі не збіраецца спыняцца

МАЛАДЗЕЧНА

**Рэспубліканскія спаборніцтвы аматараў бегу прайшлі ў Маладзечне 12 жніўня.**

Удзельнікі маглі выбраць тую праграму, якая падыходзіць больш: марафон на 42 кіламетры і 195 метраў, або 12-гадзінны бег.

Арганізаваў спаборніцтва клуб аматараў бегу «Рэгіён». Кіраўнік клуба **Аляксандр Кавалёў** расказаў пра вынікі спаборніцтваў.

**У катэгорыі 12-гадзіннага бегу ўдзельнічаў 21 чалавек, марафон беглі 23 удзельнікі.**

### Пераможцы і прызёры 12-гадзіннага бегу

Першае месца ў абсалютным заліку заняў **Віктар Няжэльскі** з Бабруйска, які за 12 гадзін пераадолеў 122 кіламетры 400 метраў. Сярод жанчын першай у абсалютным заліку стала **Вольга Гутрымава** з Гродна, якая прабегла 86 кіламетраў 700 метраў.

Прызёрамі сталі некалькі маладзечанцаў. **Святлана Кошалева** заняла першае месца ў групе «50 і старэй», пераадолела 68 кіламетраў. Другое месца ўзяла **Таццяна Івашанка** з вынікам 60 кіламетраў 700 метраў. Сярод мужчын другое месца ў групе «60 і старэй» атрымаў **Аляксандр Цімафеенка** з 39 кіламетрамі 600 метрамі. Другое месца ў групе «18-39» узяла **Аліна Гапановіч** з вынікам 35 кіламетраў.

### Вынікі марафону

Сярод марафонцаў найлепшы вынік паказаў мінчанін **Юры Папоў**, які пераадолеў дыстанцыю за 3 гадзіны 10 секунд. За ім на фініш прыйшоў смаргонец **Валеры Яшчэвіч** з вынікам 3 гадзіны, 7 хвілін і 43 секунды.

Сярод жанчын першае месца ў абсалютным заліку ўзяла **Таццяна Гурская** з Асіповічаў з вынікам 3 гадзіны, 38 хвілін і 44 секунды.

Першае месца ва ўзроставай групе 60-69 год паказаў маладзечанец **Васіль Лябецкі** з вынікам 3 гадзіны 37 хвілін 34 секунды.

### Для чаго бегунам салёны хлеб

Для таго, каб удзельнікі камфортна сябе адчувалі, арганізатары падрыхтавалі перакусы і шмат вады. Бягун у любы момант можа спыніцца, адпачыць, перакусіць. Звычайна абіраюць пячэнне, бананы і салёны хлеб.

Чаму салёны? Таму што падчас бегу чалавек шмат пацее, і з потам выдзяляюцца солі. Каб збалансаваць солевы абмен, трэба сілкавацца менавіта такім чынам. Прафесійныя бегуны падчас дыстанцыі выкарыстоўваюць адмысловыя солевыя таблеткі. Аматарам дастаткова салёнага хлеба. Калі ж не кампенсаваць страты вады і солей, арганізм моцна абязвожваецца, спартсмен можа атрымаць сутаргі.

Удзельнікі адзначылі, што надвор'е было надзвычай камфортным. На старце ў сем раніцы было 17 градусаў і лёгкі цёплы ветрык. Прыемныя ўмовы працягваліся да вечара, калі фінішавалі 12-гадзіннікі.

### Куды ж мне дзецца, перамог

**Пераможца ўзроставай групы 60-69 год маладзечанец Васіль Лябецкі – вядомы аматар бегу. На пытанне, якое месца заняў, бягун пасмяяўся: «Ну куды ж мне ўжо дзецца, першае». Мужчына адзначыў, што даўно так лёгка і радасна не бегалася – вельмі пашанцавала з надвор'ем.**

Пасля марафону мужчына прыняў душ, адпачыў, і сабраўся зноў на стадыён вітаць бегуноў на фінішы 12-гадзіннай дыстанцыі. Пасля перамогі Лябецкі дзень аднаўляў сілы, а ўжо ў аўторак падняўся ў 5:20 і рушыў на ранішнюю прабежку. Мужчына бегае прыкладна праз дзень па 15 кіламетраў, у суботу і нядзелю пераадолевае 20-30 кіламетраў.

**З ростам 170 сантыметраў ён важыць 64 кілаграмы. Пра рэжым харчавання кажа так: што жонка прыгатуе. Толькі перад спаборніцтвамі больш налягае на арэхі і сухафрукты, менш спажывае тлушчу. Вады п'е не менш за два літры на дзень, а ў дні трэніровак нават больш.**

Наступнае спаборніцтва, дзе збіраецца выступіць маладзечанскі бягун, – паўмарафон 9 верасня ў Мінску.

**Зоя ХРУЦКАЯ.**



# Крыжаванка ад «Рэгіянальнай газеты»



**ПА ГАРЫЗАНТАЛІ:**

2. Чалавек, які мае аднолькавае з кім-небудзь імя.
4. Два металічныя звяны, якія прымацоўваюцца да рамянёў вуздэчкі і служаць для закілзвання каня.
5. Спрошчаны чарцёж, які перадае сістэму, пабудову, сувязь частак.
7. Вертыкальная частка будынка, якая служыць для падтрымкі перакрыццяў і для падзелу памяшкання на часткі.
9. Першым лагатыпам Apple была выява гэтага вучонага.
12. Прозвішча кіраўніка паўстання 1863-1864 гадоў у Ашмянскім раёне. Яго атрад разбілі пад Расолішкамі, там узялі ў палон і пакаралі смерцю. Ад пакарання выратаваў хабар, дзякуючы якому прысуд замянілі на 12 год катаргі ў Сібіры.
14. Каманда, асабовы састаў карабля, самалёта, танка.
15. Заснаваны на ўраўняльным перадзеле прыватнай уласнасці.
16. Дзейная сіла, спалучаная з настойлівасцю ў дасягненні пастаўленай мэты.
18. Які характарызуецца стабільнасцю формы пры нармальных умовах, у адрозненне ад вадкага і газападобнага.
20. Імя аўтара фразы: «Гэта маленькі крок для чалавека, але гіганцкі скачок для ўсяго чалавецтва».
21. Спевы.
25. Калі з ім здарылася бяда, персанал спачатку падаваў больш стары сігнал бедства CQD. Адказу не атрымалі, таму пачалі падаваць сігнал SOS, уведзены ў 1906 годзе як больш запамінальны і просты.
27. З гэтага незвычайнага матэрыялу робяць асфальт на востраве Гуам у Ціхім акіяне.
28. Які не ўжываў спіртнога; не п'яны.

**ПА ВЕРТЫКАЛІ:**

1. Тое, чым можна забавіць дзіця.
3. «Селянін ужо і ласкай: »Но! Цягні, вашэця! Бо інакш напішуць брыдка Аб табе ў…»
5. Сукупнасць звязаных паміж сабой дзеянняў, падзей.
6. Мера даўжыні, роўная 2,54 см.
8. Праверка ведаў па якім-н. вучэбным прадмеце.
10. Дуда.
11. Толькі што надоенае, яшчэ неастылае малако.
12. Гэтую гульню прыдумаў амерыканец Чарльз Дэроў у часы Вялікай амерыканскай дэпрэсіі, якая разбурыла яго бізнес. Пачаў маляваць на абрусе, а пасля знайшоў спосаб зрабіць гульню папулярнай.
13. У каго дочкі, той ходзіць без …
15. Вялікі прамежак часу ў развіцці прыроды, грамадства, навукі.
17. Населены пункт у сельскай мясцовасці (пасёлак, сяло).
19. Адсутнасць святла, густы змрок; цемната.
21. Істотна.
22. У сярэднім за жыццё у кожнай жанчыны іх чатыры.
23. Яны забароненыя ва ўсіх гэтых гарадах: Гітхорн у Нідэрландах, Ідра ў Грэцыі, Свіяжск у Расіі, Венецыя ў Італіі, Макіно-Айленд у ЗША, Адзіна ў Мальце.
24. Гэты элемент інтэр'еру ў многіх скандынаўскіх дамах выкарыстоўваюць не так, як прывыклі ва ўсім свеце, ці адмаўляюцца ад яго наогул. Такі жэст значыць: «Мне няма чаго хаваць».
26. Прымус.
29. Вада ў стане кіпення, ускіпеўшая гарачая вада.
30. Былая мера зямлі (каля 20 дзесяцін, прыблізна 21 га).

## Адказы на крыжаванку з №32

**ПА ГАРЫЗАНТАЛІ:** 1. Цынцавічы. 2. Біяграфія. 4. Бацян. 5. Куфаль. 8. Макасіны. 10. Валожын. 12. Журба. 14. Мядзел. 15. Шастаковіч. 17. Пілільшчык. 18. Бурштын. 19. Вакх. 21. Зёлкі. 23. Мянтуз. 24. Берка.

**ПА ВЕРТЫКАЛІ:** 3. Вераніка. 6. Пількаўшчына. 7. Мадам. 9. Лычкоўскі. 11. Масква. 13. Гладыш. 16. Вавілон. 18. Брыгадзір. 20. Хатка. 22. Кабета. 25. Маліны.

## ГАРАСКОП 17-23 ЖНІЎНЯ



**АВЕН.** Вам неабходна разабрацца ў сабе з тым, што скрыта ўнутры і яшчэ «спіць», і правесці непрадузятую ацэнку сваіх жаданняў і тых жыццёвых каштоўнасцяў, якія важныя для вас.



**ЦЯЛЕЦ.** Вы можаце адчуць недахоп фінансаў, што прымусіць вас больш дбайна арганізоўваць сваё жыццё і знайсці спосаб атрымліваць ад яго тыя ж задавальненні, але з меншымі расходамі.



**БЛІЗНЯТЫ.** Калі вы абвяргалі заняткі спортам, то самы час пачаць выконваць пасільныя фізічныя практыкаванні для падтрымання сілы цела і духу ў тонусе. Калі вы ўсё яшчэ адзінокія, каханне будзе стукацца да вас у дзверы.



**РАК.** Вам цяпер шанцуе, вы будзеце надзвычай актыўныя ў грамадскай, палітычнай, адукацыйнай сферы. У далейшым адчуеце паляпшэнне здароўя, удачу ў бізнесе і калектыўнай рабоце. Удачныя будуць паходы па магазінах, можаце набыць штосьці новенькае, тое, чаго ніколі не купілі.



**ЛЕЎ.** Праблемы са здароўем у вас нарэшце знікнуць. Няма падстаў для хвалявання. Эмацыйны фон будзе пазітыўны. Пара ўзяцца за наладжванне і ўзнаўленне ранейшых сувязяў, якія аслаблі з-за вашай татальнай занятасці.



**ДЗЕВА.** Вам даецца права выбару. Памятаеце, як у казцы: «Пойдзеш налева – галаву згубіш, пойдзеш прама – розум страціш, пойдзеш направа – шчасце знойдзеш». Правільнасць вырашэння і праз пяць гадоў адчуеце. Калі ў сям'і наспяваюць спрэчкі – не накручвайце сябе, ведайце, што дрэнныя думкі маюць уласцівасць збывацца. Лепш пагаварыце з мудрым чалавекам.



**ШАЛІ.** Калі вы адзінокія, то знаёмства будзе мець прыватны характар, калі адчуваеце сябе ўшчэмленымі ў бізнесе – то сустрэнеце «патрэбнага» чалавека. Не сумнявайцеся ў сваёй удачы, і яна прыйдзе да вас.



**СКАРПІЁН.** Гэта час «псіхалагічных лекаў», калі вы самі можаце выступіць у якасці доктара і паспрабаваць выправіць негатыўныя (на ваш погляд) рысы свайго характару. Вы будзеце ўзнагароджаны шостым пачуццём, якое дапаможа знайсці выгаду там, дзе іншыя атрымаюць толькі страты.



**СТРАЛЕЦ.** Гэта перыяд актыўнасці, добрага настрою, удачы. Можна сябе папесціць і схадзіць на канцэрт джазавай музыкі. Увогуле, джаз – гэта ваш дэвіз, ваш рытм жыцця. Напішыце на паперцы спіс таго, што вам хочацца зрабіць, і выконвайце.



**КАЗЯРОГ.** Замрыце і нічога не распачынайце. Уявіце сабе, што вы вада, якая раптам замерзла. Хай так, затое ў вас ёсць час для таго, каб усё абдумаць. Ведайце, бывае, зусім не шкодна прааналізаваць і адпусціць падзеі, што адбыліся з вамі за нейкі перыяд.



**ВАДАЛЕЙ.** Будзьце ўважлівыя, каб не стаць ахвярай маніпуляцый і інтрыг, паколькі давяраеце чужым словам больш, чым уласнаму здароваму сэнсу і ўнутранаму голасу. Не «наламайце дроў» пад уплывам настрою ў сур'ёзнай сітуацыі.



**РЫБЫ.** Не змешвайце жаласлівасць з сімпатыяй, а свае матэрыяльныя інтарэсы з неабходнасцю дапамагчы. У гэты час добра запісацца на курсы, у клуб, выбраць для сябе новае захапленне і кола зносін.

**Марыя УРБАНОВІЧ.**

## СУДОКУ

| | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 2 | 4 | | | 9 | | | | 1 |
| 6 | | 3 | | | | 5 | | 9 |
| 8 | | 5 | | | | 2 | | 4 |
| | | | | 3 | 7 | 4 | | |
| 5 | 7 | | | | | | | 6 |
| | 8 | | | | | | 2 | 7 |
| | 6 | 1 | | | | | 8 | |
| | | | | 1 | | 6 | | 5 |
| | | | | 4 | 8 | 9 | | |

**Запоўніце ўсе пустыя клеткі з дапамогай лічбаў ад 1 да 9 так, каб у кожным радку, слупку і кожным раёне (3х3) лічба ад 1 да 9 сустракалася толькі адзін раз.**

Рэгіянальная газета. Rh.by
тэлетыдзень
НАЙЛЕПШАЯ РЭГІЯНАЛЬНАЯ ГАЗЕТА ГОДА 2015
НАЙЛЕПШАЯ РЭГІЯНАЛЬНАЯ ГАЗЕТА ГОДА 2017

## НАДВОР'Е

### 18 жніўня, субота

| | Пятніца | | Субота | | Нядзеля | | Панядзелак | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Мінск | +17 / +24 | | +18 / +25 | | +18 / +26 | | +18 / +23 | |
| | 744 | ↙ 2 | 743 | ← 3 | 741 | → 2 | 741 | → 3 |
| Вільня | +16 / +24 | | +16 / +26 | | +18 / +22 | | +16 / +21 | |
| | 751 | ← 3 | 749 | ↖ 3 | 748 | → 5 | 746 | ↗ 4 |

Тэмпература паветра, Воблачнасць ападкі, Ціск (мм рт. сл.), Хуткасць ветру м/с, Усход, захад па Маладзечне

Усход 5.55
Захад 20.38
Даўжыня дня 14.53

Усход 14.38
Захад 23.52
Квадра 2




## ЭКСТРЭМУМЫ НАДВОР'Я

### ВАЛОЖЫН

Мінімальная тэмпература +5,0°C у 1987 годзе
Максімальная тэмпература +30,2°C у 1985 годзе
Максімальная колькасць ападкаў 10,0 мм у 1994 годзе
Паводле meteoinfo.by

## Чытайце праз тыдзень

Тыдзень таму мы пісалі пра хлопца, што вандраваў аўтаспынам. Матэрыял прыцягнуў увагу маладзечанца. Ён звярнуўся ў рэдакцыю, каб расказаць і пра свой досвед. Як Арцём Лях з сябрам падарожнічалі па Украіне, Расіі, Грузіі, Арменіі, Азербайджану і Казахстану, чытайце ў наступным нумары «РГ».

## Бяжыце ад спёкі з мядзельскімі спартсменамі і «Рэгіянальнай газетай»!



## Падпісацца на «РГ» можна:

✓ **праз сайт «Белпошты»**

Рэгіструемся на сайце. Заходзім у акно інтэрнэт-плацяжоў, выбіраем «Афармленне падпіскі на друкаваныя сродкі масавай інфармацыі», выбіраем «Алфавітны». Выбіраем тып падпіскі (індывідуальная ці ведамасная).

Ціснем літару «Р», справа гартаем старонкі, пазначаныя сінім колерам. Пад індэксам 632122 – «Рэгіянальная газета»

✓ **на пошце**
✓ **праз паштальёна**
✓ **праз плацежна-даведачны тэрмінал**

Цана **індывідуальнай падпіскі** на месяц – 3 рублі 79 капеек.

Цана **ведамаснай падпіскі** на месяц – 11 рублёў 22 капейкі.

Вы можаце скарыстацца **скідкай за дастаўку,** калі самі будзеце забіраць газету або ў абаненцкай скрыні, або атрымліваць да запатрабавання.

**ПАДПІСНЫ ІНДЭКС:** *63212 (індывідуальная)*
*632122 (ведамасная падпіска).*

## ПРОСТА АНЕКДОТ

***

Прышынкі для транспарту распрацоўваліся спецыяльна для нашага надвор'я. Дызайнеры ўсё прадумалі! На выпадак спякоты – шкляныя дахі, на выпадак ветру – праёмы ў сценах. На выпадак марозу – жалезныя лаўкі.

***

Рабіў з сынам урокі. Горш толькі з жонкай шпалеры клеіць.

***

Мяняў правы кіроўцы. Як не дзіўна, чэргі існуюць нават да псіхіятра. І скандалы «вы тут не стаялі» здараюцца. Я справацца не стаў і прапусціў чалавека наперад. Да псіхіятра. І гучна сказаў: «Вам больш трэба, гэта моцна заўважна», і прапусціў.



## ЭКСПРЭС-АПЫТАННЕ Ў МАЛАДЗЕЧНЕ

# Дзе вы адпачывалі гэтым летам?



**Аляксандр Архіпкін, слесар:**
– З нашымі заробкамі мала куды можна з'ездзіць. За мяжу летам не ездзіў – часу не было, магчымасцяў. Адпачываць прыходзіцца толькі на прыгажосцях Вілейскага вадасховішча, але і там не заўсёды атрымліваецца, таму што едуць адусюль, нават з Віцебскай і Магілёўскай абласцей.



**Дар'я Гудзько, гандлёвы прадстаўнік:**
– Ездзіла ў Адэсу на машыне. Па дарозе наведала Кіеў – вельмі спадабаўся прыгажосцю, рака і масты зачаравальныя. У Адэсе была другі год запар. Выдатны горад для актыўнага адпачынку, бо не проста ляжаць на пляжы і загараць. Мясцовы каларыт ўлюбляе ў сябе.



**Арцём Казакевіч, прадавец:**
– Сёлета адпачываў толькі на дачы. Нарадзіўся ў Маладзечне, але цяпер працую ў Маскве. Вельмі хацелася пабачыць сяброў і падыхаць чыстым паветрам, таму прыехаў на адпачынак у родную краіну.



**Дар'я Ветрава, студэнтка:**
– Выбіраць кожны год на мора стала ўжо нашай сямейнай традыцыяй. Гэтым летам выбралі Турцыю. Міжземнае мора нашмат цяплей Чорнага. Ды і пазнаёміцца з прыгажосцю турэцкай прыроды – вялікае задавальненне.



**Яўген Дзіткоўскі, спецыяліст па касавых суміруючых апаратах:**
– Летам працаваў, на адпачынак не было грошай. Але хацеў бы адпачыць недзе ад мітусні. У той жа Сібіры. Дзе людзі з вялікай літары. Дзе няма гэтага «чалавек чалавеку звер» і ёсць панятці свабоды, гонару і сумлення.



**Сяргей Дземідовіч, наладчык аўтаматычных ліній:**
– Адпачынку ў мяне не было, шмат працую. Летам два разы на месяц хадзіў на «Мазгабойню», ездзіў на «Бі-2 Fest» у Бабруйск. Гэта таксама добры адпачынак.



**Іна Лаўрыновіч, касір:**
– У верасні мяне чакае адпачынак, таму летам нікуды не ездзіла. Але наведала наш Мірскі замак, там прыгожа, цікава было паглядзець.

**Падрыхтавала Таццяна КАСЬЯН.**

Рэгіянальная газета. Rh.by
Аб'ём 6 друкарскіх аркушаў фармату А2.
Тыраж 5000 экз. Індэкс 63212 (індывідуальная падпіска), 632122 (ведамасная падпіска).
№33 (1216) 17.08.2018. У розніцу – цана свабодная.
Друкарня ТАА «РоллПрынт», 220137, г. Мінск, вул. Халмагорская, 59-а.
Ліцэнзія №023484 ад 16.02.2018 г.
Зак. 583. Падпісана ў друк у 9.00 16.08.2018.
**Галоўны рэдактар Аляксандр Барысавіч МАНЦЭВІЧ.**


Заснавальнікі: Аляксандр Манцэвіч, Ніна Манцэвіч.
Рэдакцыя: **222310, Маладзечна, Вялікі Гасцінец, 143, оф. 518.**
Тэл.: **(80176) 53-78-04** (рэклама, факс), **53-78-05** (дырэкцыя, загадчык аддзела інфармацыі), **53-78-06** (журналісты), **(8029) 573-28-47, 676-84-20.**
E-mail: **reklama@rh.by, regionnews@rh.by.** Web: **http://rh.by, рг.бел.**
Разліковы рахунак BY06BELB30121640300040226000 у ААТ «Банк БелВЭБ» аддзяленне ў Маладзечне, BELBBY2X, атрымальнік ТАА «Рэдакцыя газеты «Рэгіянальная газета», УНН 600288444, АКПА 06082329.
Пасведчанне №731 ад 12.10.2009 г. Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь.